Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

**№ 10 (4656) 9 сакавіка 2012 г.**

**Віктар ШНІП**

## *Каханая жанчына*

*Ты ідзеш па горадзе*
*няспешна,*
*Як па белых воблаках ідзеш.*
*І сняжынкі прад табой,*
*як вершы,*
*Лётаюць,*
*збіраючыся ў верш*
*Белы, як бялюткія рамонкі,*
*Па якіх, кахаючы, гадаць*
*Аб каханні,*
*дзе ў нябёсах гронкі*
*Зорак залатых табе зіхцяць,*
*Шэпчуцца ў садах*
*анёльскіх ружы,*
*Аж п’янеюць*
*пчолы й матылі...*

*Ты ідзеш, і прад табою сцюжа*
*Расступаецца, бо на зямлі*
*Ты адна прыгожая сягоння,*
*Як ніколі гэткай не была.*
*І ў бакальным,*
*і ў царкоўным звоне*
*Чуецца мелодыя святла,*
*Што яднае душы маладыя.*
*А душы заўжды*
*быць маладой!*
*І гады прыходзяць залатыя,*
*Золата прыносячы з сабой*
*У каханне, веру і надзею,*
*Каб па горадзе і ты ішла*
*І табе мужчыны*
*ўслед глядзелі,*
*Шкадавалі:*
*“Дзе ж раней была?”*

# Беларуская вясна ў Брытаніі

**Марына ВЕСЯЛУХА**



**У Лондане цяпер вясна. Цвітуць нарцысы, крокусы, вішні, у паветры адчуваецца дух абуджэння, абнаўлення прыроды. У знакамітым Гайд-парку адпачываюць людзі.**
**Але гэтая вясна — незвычайная. Прынамсі, для Пасольства Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі, бо тут распачала працу выстаўка беларускага нацыянальнага касцюма і абрадавых ручнікоў з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Гэтая знакавая падзея стала магчымай дзякуючы ініцыятыве Пасольства Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі і падтрымцы Прэзідыума НАН Беларусі, Міністэрства культуры краіны, а таксама Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.**

— Ідэя арганізацыі і правядзення беларускай выстаўкі ў Лондане з’явілася амаль год таму, — распавёў па вяртанні з Вялікабрытаніі дырэктар Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука. — З такой прапановай у музей звярнуўся пасол нашай краіны ў Вялікабрытаніі спадар Аляксандр Міхневіч. Мы доўга разважалі, які матэрыял лепш накіраваць у Лондан, якія прадметы прадставіць, каб яны найбольш ярка прэзентавалі адметнасці беларускай культуры. Спадар пасол пабываў у нас у музеі, і мы выбралі менавіта касцюмы і абрадавыя ручнікі. У прыватнасці, жыхары Лондана могуць пабачыць пяць найбольш яркіх жаночых касцюмаў, якія прадстаўляюць асноўныя рэгіёны Беларусі: Палессе, Цэнтральную, Заходнюю, Усходнюю і Паўночную Беларусь. І мы ўзялі з сабой васямнаццаць ручнікоў з розных рэгіёнаў. Усе яны — арыгінальныя музейныя рэчы, зробленыя ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Экспазіцыя разгарнулася ў некалькіх залах пасольства. У холе, дзе знаходзіцца сцяг і герб, якія сустракаюць наведвальнікаў на ўваходзе, мы таксама размясцілі некалькі ручнікоў. І, як апынулася, гэта вельмі ўражліва, нават для нас: побач са сцягам, на якім ёсць арнамент, вісяць ручнікі, што перагукаюцца з ім і па колеравай гаме, і па арнаментацыі.

Адкрыццё выстаўкі ў Пасольстве Беларусі ў Вялікабрытаніі праходзіла ў два этапы. На першы былі запрошаны прадстаўнікі ўлады, адміністрацыі Лондана, паслы краін СНД і Заходняй Еўропы ў Вялікабытаніі. З экспазіцыяй азнаёмілася нават віцэ-мэр Каралеўскай акругі Кенсінгтан і Чэлсі горада Лондан Элізабет Рутэрфорд — менавіта на тэрыторыі гэтага раёна знаходзіцца пасольства. У другі дзень на ўрачыстае адкрыццё былі запрошаны больш шырокія колы грамадскасці: прадстаўнікі галерэй горада, музеяў, грамадскіх арганізацый, бізнес-структур, з якімі супрацоўнічае Пасольства Беларусі. Выстаўка будзе доўжыцца яшчэ некалькі тыдняў. Потым з беларускімі касцюмамі і ручнікамі змогуць пазнаёміцца жыхары іншых гарадоў Вялікабрытаніі — Оксфарда, Кембрыджа і Ньюкасла. Як падкрэсліў Барыс Андрэевіч, Оксфард і Кембрыдж у дадзеным выпадку больш прывабныя — гэта агульнавядомыя цэнтры культуры адукацыі, дзе размешчана вялікая колькасць каледжаў, універсітэтаў, у асобных з іх вывучаюць і беларускую мову, культуру славян. Плануецца, што праз некалькі месяцаў, прыкладна ў канцы лета, выстаўка вернецца ў Мінск.

Натуральна, калі мы прадстаўляем сваю культуру і нацыю за мяжой, узнікае лагічнае пытанне: як нас, беларусаў, успрымаюць? Як ставіцца да праяўленняў беларускай нацыянальнай культуры?



— Здагадацца і зразумець рэакцыю і сапраўднае стаўленне наведвальнікаў да выстаўкі складана. І можна меркаваць толькі па знешніх праяўленнях пачуццяў вельмі стрыманых англічан, — разважае Барыс Лазука, — Гэта было перш за ўсе захапленне. Касцюм і ручнік — вобраз, што мы асацыіруем з Беларуссю. Гэта наша нацыянальная рыса, наш, так бы мовіць, брэнд. Не выпадкова мы іх выбралі, каб паказаць у Лондане. Па-першае, калі праводзіць паралель з Вялікабрытаніяй, то атрымліваецца, што агульнага брытанскага касцюма не існуе. Ёсць касцюмы Шатландыі, Уэльса, Англіі, іншых рэгіёнаў. Для жыхароў Лондана выстаўка стала сапраўдным адкрыццём: яны ўпершыню пабачылі не толькі аўтэнтычны беларускі касцюм, але і касцюм, што цалкам накладваецца на вобраз нацыі. Мы ў подпісах да экспаната ўказалі, што яны датуюцца другой паловай XIX — пачаткам XX ст. Для музейных работнікаў і гісторыкаў гэта не надта даўні час. Але калі часавыя межы касцюма перакласці на іншыя віды мастацтва — жывапіс, скульптуру, то азначаны прамежак можа адпавядаць даўніне X — XII стст.

Бадай, прадстаўленне беларускай культуры было б няпоўным без гучання нашага нацыянальнага інструмента — дуды. І яна гучала ў Лондане! Яе прадставіў майстар і музыка, аспірант БДУКіМ Аляксандр Сурба. У сталіцу Вялікабрытаніі ён прыхапіў з сабой ажно два інструменты. На адным выконваў беларускія народныя мелодыі падчас урачыстасцей — што, дарэчы, выклікала сапраўдны фурор сярод публікі: наведвальнікі бачылі знаёмую валынку, але гэта была новая для іх беларуская дуда. Другі інструмент будзе перададзены ў падарунак Этнаграфічнаму музею Оксфардскага ўніверсітэта.

Англічане будуць мець не толькі ўспаміны пра яркую выстаўку, але і матэрыяльныя пацвярджэнні нашай прысутнасці ў Лондане. Так, пры фінансавай падтрымцы НАН Беларусі былі выдадзены два буклеты. Адзін з іх коратка прэзентуе Музей старажытнабеларускай культуры, змяшчае тэкст і па-беларуску, і па-англійску. Другі прысвечаны традыцыйнаму народнаму касцюму і абрадаваму ручніку, тут прадстаўлены асноўныя беларускія строі, у тым ліку і тыя, што можна пабачыць на выстаўцы. Не засталося без падарункаў і само пасольства. Так, у Лондане цяпер ёсць копія абраза канца XVIII ст. “Троіца” (арыгінал захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры), некаторыя новыя выданні Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі, а таксама “Гісторыя сусветнага мастацтва” Барыса Лазукі ў трох кнігах. У пасольстве — важным асяродку, дзякуючы якому забяспечваецца беларуская культурная прысутнасць, застаўся яшчэ адзін сімвал повязі — пояс, вытканы студэнтамі БДУКіМ.

***На здымках: экспанат выстаўкі; віцэ-мэр Каралеўскай акругі Кенсінгтан і Чэлсі горада Лондан Элізабет Рутэрфорд і кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі Марыя Віннікава на адкрыцці выстаўкі.***

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка напярэдадні свята 8 Сакавіка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды 29 жанчынам Беларусі. 17 з іх атрымалі Ордэн Маці. Астатнія былі ўганараваныя за сваё працоўныя і творчыя дасягненні. Сярод іх — спявачка Нацыянальнага акадэмічнага Беларускага тэатра оперы і балета Аксана Волкава, якая стала Заслужанай артысткай Беларусі, і балерына гэтага ж тэатра Кацярына Алейнік, якая атрымала медаль Францыска Скарыны. Медалём Францыска Скарыны была таксама ўзнагароджана артыстка Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Алена Дудзіч.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча з 60-годдзем з дня яго заснавання. "Кожны канцэрт хору ператвараецца ў яркае музычнае свята, дэманструе багацце і разнастайнасць вобразаў і фарбаў нашай нацыянальнай культуры", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" з 40-гадовым юбілеем. Кіраўнік дзяржавы зазначыў, што ўстанова адкрылася ў перыяд павышэння цікавасці насельніцтва да літаратуры, і падкрэсліў, што "Мастацкая літаратура" заўсёды надавала асаблівую ўвагу выданню твораў беларускіх класікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Караткевіча. Выпускала ў свет і кнігі маладых аўтараў, якімі сёння па праве можа ганарыцца беларуская літаратура.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Яўгена Догу с 75-годдзем. "Сотні напісаных Вамі цудоўных інструментальных твораў, усенародна любімых песень і незабыўных мелодый да кінафільмаў сталі каштоўным унёскам у сучасную культуру", — адзначана ў віншаванні.

✔ Беларускую сталіцу наведала прарэктар па навучальна-метадычнай дзейнасці Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры Тацццяна Саладухіна дзеля сустрэчы з рэктарам БДУ культуры і мастацтваў Барысам Святловым. У працэсе перамоў былі абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва гэтых ВНУ. У рамках візіту расійскай дэлегацыі адбылася таксама сустрэча Ганаровага прафесара МДУ культуры, народнага артыста Расійскай Федэрацыі Юрыя Куклачова са студэнтамі ўніверсітэта, майстар-клас і прэзентацыя аўтарскага адукацыйнага праекта "Урокі дабрыні".

✔ У Мінску прайшла цырымонія прысуджэння літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца. Сярод лаўрэатаў — член Саюза пісьменнікаў Беларусі Андрэй Федарэнка, чыя кніга "Мяжа", што выйшла ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", была адзначана як адна з лепшых выдадзеных у 2011 годзе ва ўсім свеце празаічных беларускамоўных кніг.

✔ На пленарным пасяджэнні Канферэнцыі каталіцкіх епіскапаў у Беларусі прынята рашэнне выдаць на беларускай мове ўсе чатыры кнігі Евангелля адным томам. Пераклад быў здзейснены Секцыяй па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў каталіцкай царквы.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Крокі за мяжу

**У сталічным Доме літаратара адбылося пасяджэнне Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

Ірына СЛАНІМСКАЯ

Першым пытаннем, вынесеным для абмеркавання, было падвядзенне вынікаў XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, удзел у якой узяў Саюз пісьменнікаў. Дакладчыкам, старшынёй СПБ Мікалаем Чаргінцом, былі згаданы ўдала праведзеныя прэзентацыі серыі "Бібліятэчка СПБ", новых кніг Алеся Савіцкага, Міколы Мятліцкага, Анатоля Статкевіча-Чабаганава, Валерыя Чудава, "круглы стол" у Доме літаратара з удзелам беларускіх і венесуэльскіх пісьменнікаў, пасольстваў Венесуэлы і Палесціны. Міжнародныя форумы дапамагаюць беларускай літаратуры выйсці на сусветны ўзровень вядомасці — з гэтым згадзіліся ўсе прысутныя. Значыць, трэба больш актыўна браць удзел у такіх мерапрыемствах, прапагандаваць нашых аўтараў за межамі Беларусі і мацаваць сувязі з замежнымі калегамі па пісьменніцкім цэху.

Генадзь Пашкоў, першы сакратар СПБ, паведаміў пра планы творчай арганізацыі, звязаныя са святкаваннем у Беларусі 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа, 100-годдзя Максіма Танка, 1150-годдзя першага ўзгадвання ў летапісах Полацка. Пісьменнікі не павінны і не будуць знаходзіцца ўбаку ад такіх значных гістарычных дат. Іх месца — сярод арганізатараў адпаведных мерапрыемстваў і галоўных удзельнікаў.

На Прэзідыуме таксама былі разгледжаны пытанні аказання матэрыяльнай дапамогі пісьменнікам-ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, падрыхтоўкі новай версіі тэлефонна-адраснага даведніка СПБ, сузаснавання часопісаў "Роднае слова", "Вожык", "Вясёлка" ды іншыя пытанні, што датычаць дзейнасці саюза.

## Афіцыйна

# Ушанаванне нацыянальнага гонару

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы стаў месцам чарговага пасяджэння рэспубліканскага арганізацыйнага камітэта па правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Вёў пасяджэнне намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатолій Тозік, старшыня аргкамітэта.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава



У пасяджэнні бралі ўдзел намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі, намеснік міністра замежных спраў Сяргей Алейнік, намеснік міністра адукацыі Казімір Фарыно, старшыня СПБ Мікалай Чаргінец, прадстаўнікі іншых міністэрстваў, ведамстваў. У дакладах выступоўцаў разглядалася, як ідзе падрыхтоўка да вялікай падзеі ў культурным жыцці краіны, выказваліся заўвагі і прапановы.

Як паведаміў намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі (Міністэрства культуры — асноўны каардынатар праекта), ушанаванне памяці пра Янку Купалу і Якуба Коласа, асоб, якія самаахвярна служылі Радзіме, будзе праходзіць не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Да святкаванняў далучацца беларускія дыяспары многіх краін свету. Пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў будуць арганізаваны мерапрыемствы, якія пазнаёмяць з творчай спадчынай вялікіх паэтаў, электроннымі каталогамі мемарыяльных музеяў, сучаснымі стужкамі пра іх вытворчасці Белвідэацэнтра і інш. Тэматычныя выстаўкі ўжо працуюць у Польшчы, Арменіі.

Работа ідзе па некалькіх напрамках згодна з планам мерапрыемстваў, зацверджаным указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Асноўныя мерапрыемствы з удзелам беларускіх літаратараў, творчых калектываў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пройдуць на малой радзіме класікаў — у вёсцы Вязынка Маладзечанскага раёна і ўрочышчы Бервянец Стаўбцоўскага раёна. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрыецца рэспубліканская выстаўка кніг Купалы і Коласа, у музеі Купалы пройдуць 10-я міжнародныя Купалаўскія чытанні. Працягваецца праца над стварэннем тэматычных літаратурна-мастацкіх і дакументальна-публіцыстычных праграм, прысвечаных жыццю і творчасці песняроў. Пад знакам юбілею пройдзе восьмы абласны злёт маладых паэтаў Міншчыны "Слова Купалы да творчасці кліча", 12-ы нацыянальны фестываль песні і паэзіі ў Маладзечне.

Дакладаючы, як ідзе работа па ўшанаванні памяці Купалы і Коласа ва ўстановах адукацыі, заклікаў пазбягаць заарганізаванасці ў падрыхтоўцы мерапрыемстваў Казімір Фарыно. Пра праекты, шмат якіх рэалізуецца сумесна з музеем Коласа, інфармавала дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч. Дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская прапанавала зрабіць пешаходнай вуліцу Акадэмічную, якая вядзе да музея. Прагучала пажаданне правесці пленэры для мастакоў і музыкантаў на радзіме класікаў.

У выніку пасяджэння для аблвыканкама і Мінгарвыканкама былі ўстаноўлены тэрміны распрацоўкі і зацвярджэння планаў па святкаванні юбілеяў, заканчэння капітальнага рамонту і рэстаўрацыі парку і добраўпарадкавання тэрыторыі, прылеглай да будынка музея Купалы, прапанавана выдаць плакаты з выявамі Купалы і Коласа. Міністэрства сувязі павінна наладзіць выпуск паштовай прадукцыі з юбілейнай сімволікай. Вырашана звярнуцца да Нацбанка з просьбай выпусціць памятныя манеты да дзён нараджэння Купалы і Коласа — 7 ліпеня і 3 лістапада.

*На здымку: намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатолій Тозік падчас пасяджэння.*

## Да 1150-годдзя Полацка

# Горад сівых легенд адзначае юбілей

**Урачыстая прэзентацыя ўгодкаў Полацка прайшла ў сталічным Доме дружбы.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

Мы кажам пра 1150-годдзе Полацка, добра разумеючы, што на самой справе "бацька гарадоў Беларускіх" мае яшчэ больш шаноўны ўзрост. Скандынаўскія сагі прыгадваюць Полацк V стагоддзя. Магчыма, яшчэ адкрыюцца нашым нашчадкам пісьмовыя крыніцы, якія пацвердзяць гэтую дайніну. Але і без таго нам ёсць чым ганарыцца. Старажытны горад не загінуў у ліхалецціх войн, захаваў сваё непаўторнае аблічча, па-ранейшаму з'яўляецца цэнтрам славянскай і сусветнай культуры і з кожным годам становіцца яшчэ больш прывабным для жыхароў і гасцей.

Прэзентацыя распачалася паказам слайдаў з полацкімі краявідамі. Старшыня полацкага гарвыканкама Мікалай Пазняк нагадаў прысутным, сярод якіх былі прадстаўнікі замежных пасольстваў, айчынныя дзеячы навукі, культуры, мастацтва, вядомыя палачане пра багатую гісторыю горада. Таксама ён пазнаёміў усіх з планам перабудовы цэнтра горада з мэтай удасканальвання турыстычнай інфраструктуры.

Вялікая частка мерапрыемства была аддадзена прэзентацыі новай кнігі вядомага песняра Полаччыны, яе непахіснага патрыёта, паэта Навума Гальпяровіча — "Я ад дрэва твайго лісток…", выдадзенай РВУ "Літаратура і Мастацтва". Навум Якаўлевіч — адзін з яркіх сучасных прадстаўнікоў беларускага мастацкага слова. Кожны яго верш — прызнанне ў любові роднай зямлі, яе людзям, сваёй малой радзіме.



— Інакш і быць не магло, бо самае першае, што пабачыў я ў гэтым жыцці, былі званіцы Полацкай Сафіі, — прызнаўся сам паэт падчас прэзентацыі. — Раддом, дзе я з'явіўся на свет, стаіць якраз насупраць славутага храма.

Вершы Навума Гальпяровіча — пра Дзвіну і Палату, пра славутых асветнікаў Полацкага краю — святую Еўфрасінню і Францыска Скарыну, — пра суровых полацкіх вояў з легендаў і пра ласкавае прыцягненне роднай зямлі — гучалі на працягу ўсяго мерапрыемства, ператвараючы ў адзіную паэму ўсё сказанае са сцэны. А сказана было нямала. Вітала палачан, якія "атуляюць свой горад трапяткой любоўю" старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова. Расказваў пра маючыя адбыцца ў самы бліжэйшы час у Полацку ўрачыстасці намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі.

— Мы вылучылі тры складнікі свята, — сказаў Тадэуш Іванавіч, — Полацк будзе прадстаўлены ў трох іпастасях: як калыска беларускай дзяржаўнасці, як культурны цэнтр і як сучасны еўрапейскі горад. Мы павінны паказаць усім, і ў першую чаргу замежным гасцям, што мы маем сваю вялікую гісторыю, якой трэба ганарыцца. Мы імкнёмся, каб пра наш Полацк даведаліся як мага больш людзей і захацелі прыехаць у Беларусь, пазнаёміцца з гэтым горадам.

*На здымку: праніклёна гучалі вершы Навума Гальпяровіча.*

Літабсягі

# Ці верыце вы ў казку?

Ірына ТУЛУПАВА

**Дом Масквы ў Мінску сустракаў дзяцей. Дзень, прысвечаны казцы, арганізавалі тут з нагоды знаёмства з кнігай Наталлі Голубевай "Сказки тётушки Руфь", выдадзенай у РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў 2011 годзе.**

У сустрэчы-прэзентацыі ўдзельнічалі выхаванцы дзіцячай тэатральнай школы №1 пры Новым драматычным тэатры г. Мінска. Гасцей — дзетак і іх бацькоў — сустрэла надзіва пранікнёнай і меладычнай песняй "Ці існуе рай на зямлі" таленавітая вучаніца Даша Валадзько. У фае разгарнулася міні-выстаўка малюнкаў навучэнцаў Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў, а ў глядзельнай зале пасля ўрачыстага адкрыцця імпрэзы паказалі спектакль паводле казак той самай цётачкі Руф.

Сінтэз жанраў на імпрэзе як быццам следаваў за багатай дзіцячай фантазіяй. Зрэшты, гэткая канва сустрэчы цалкам апраўдала сябе. Тут усё падпарадкоўвалася адной мэце: як мага шырэй паказаць працу над кнігай. Малюнкі прысвячаліся пэўным творам, такімі ілюстрацыямі можна было б афармляць выданні. Для дзяцей такая праца сталася новай і вельмі цікавай: майстэрства стварэння так званай "арт-кнігі" падуладнае нават не кожнаму даросламу. Каля выстаўкі малюнкаў на асобным століку можна было ўбачыць кнігі, зробленыя рукамі дзяцей у адным экземпляры. Ды і малюнкі, якія з'явіліся на свет пасля прачытання таго ці іншага літаратурнага твора, падавалася, зусім нечакана для іх аўтараў трапілі пад шкло ды сталі выставачнымі экспанатамі. Дзеці з усёй іх эмацыянальнасцю і адкрытасцю малявалі тое, што падказвала ўяўленне. Але — з парадай іх настаўніка: прафесійнага і вядомага мастака-графіка Рыты Цімохавай, якая аформіла не адну беларускую кнігу і выкладае ў гімназіі-каледжы.

"Добрая кніга — тая, якая нясе дабро, падкрэсліў ва ўступным слове да сустрэчы клірык Святаўваскрэсенскага храма г. Мінска айцец Кірыл. — Здольнасць ахвяраваць сябе дзеля іншага — таксама ўласціва чалавеку".

Тэму пошуку ў гэтым свеце дабра і прыгажосці працягнуў міні-спектакль, створаны таленавітым рэжысёрам Віргініяй Тарнаўскайтэ паводле кнігі Наталлі Голубевай — "Таямніцы старажытнага вадаёма".

Спектакль пачынаўся як кіно: на экране над сцэнаю дзяўчынка разгарнула кнігу, пачала чытаць і… апынулася ў чароўным казачным свеце. Дзейныя асобы на сцэне шмат сваіх пачуццяў перадавалі словамі, але шмат што ўвасоблівася і ў пластыцы. Зала пачувалася досыць утульна, маленькія тэатралы, што прыйшлі на сустрэчу са сваімі бацькамі, затоена назіралі за развіццём сюжэта. Акцёры — выхаванцы дзіцячай тэатральнай школы № 1 — увасобілі гісторыю каварнай жабы-агі Сірмы, мудрай Эрмы і яе сяброў, стварыўшы разам з дарослым рэжысёрам выдатны спектакль для дзяцей.



***На здымку: Сабрына Вяжан — дзяўчынка, якая натхніла аўтара на напісанне кнігі.***

Артлінія

# Тры аркестры плюс...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара

**Грандыёзнай імпрэзай з удзелам трох аркестраў распачалася серыя канцэртаў, прымеркаваных да 80-годдзя Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Вечар адбыўся ў Белдзяржфілармоніі, якая сёлета таксама адзначае юбілей: 75. Зусім лагічна, што дзве музычныя ўстановы абвясцілі пра свае знамянальныя даты гучным супольным праектам.**

За прыгожым спалучэннем лічбаў — 80 і 75 — багатая агульная гісторыя. Яе мы прыгадвалі мінулай вясной, калі ў Вялікай зале філармоніі ладзіўся канцэрт "Вечар кансерваторыі", творчыя агледзіны маладых талентаў ды іх настаўнікаў — выдатных педагогаў і выканаўцаў. Пра спакроўленасць Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер БДАМ) і БДФ нагадаў яе мастацкі кіраўнік, прафесар акадэміі Юрый Гільдзюк падчас сустрэчы з журналістамі. Ён падкрэсліў, што менавіта першы выпуск нашай кансерваторыі стварыў асновы дзейнасці філармоніі, і творчасцю ўжо некалькіх пакаленняў, узгадаваных у беларускай музычнай ВНУ, сілкуецца канцэртнае жыццё краіны.

Пра падрыхтоўку праграмы трох аркестраў і перспектыву супрацоўніцтва БДАМ і БДФ казалі ініцыятары супольнага праекта — рэктар акадэміі Кацярына Дулава і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Аляксандр Анісімаў. Маэстра прызнаўся, што падчас леташняга "Вечара кансерваторыі" быў проста ўражаны выканальніцкім узроўнем студэнцкіх калектываў. І вось ДАСА, які ён узначальвае, і два аркестры БДАМ — сімфанічны "Маладая Беларусь" (кіраўнік народны артыст, прафесар Міхась Казінец) і духавы "Фанфары Беларусі" (кіраўнік народны артыст, прафесар Міхаіл Бярсан) выступілі на роўных. Дырыжор канцэрта народны артыст Рэспублікі Беларусь А. Анісімаў выбраў салідны і яркі рэпертуар: уверцюру да оперы Р. Вагнера "Нюрнбергскія майстарзінгеры", "1812 год" П. Чайкоўскага, "Балеро" М. Равеля, Канцэрт для цымбал з аркестрам № 2 Д. Смольскага, Канцэрт для дзвюх труб з аркестрам Г. Гарэлавай, Сімфонію № 4 В. Кузняцова.





***На здымку: рэктар БДАМ, доктар мастацтвазнаўства прафесар Кацярына Дулава.***

Повязі

# Сонечнае свята ў гонар вясны

Лявон ЦЕЛЕШ, фота аўтара

**Прыход вясны па-рознаму адзначаюць розныя народы. У паўднёвай, братняй нам краіне Малдове ўжо некалькі стагоддзяў ладзяць веснавое свята Мэрцішор. Традыцыйна яго адзначаюць з 1 па 12 сакавіка: у гэтыя дні людзі дораць адно аднаму ўпрыгожванні — мэрцішоры: дзве кветачкі ці два сардэчкі чырвонага і белага колеру. Іх прыколваюць на адзенне з левага боку, каля сэрца.**

Да Мэрцішор далучаецца і Мінск. Пры падтрымцы пасольства Малдовы ў нашай краіне і Таварыства дружбы "Беларусь — Малдова" ладзяцца вечарыны, на якіх гучаць малдаўскія і беларускія песні, выконваюцца вясёлыя малдаўскія танцы. Вось і сёлета ў чытальнай зале адной са сталічных бібліятэк адбылася ўжо 20-я вечарына, прысвечаная гэтаму цудоўнаму вясеннямy святу. На пачатку ўрачыстасці кожны госць і ўдзельнік атрымаў амулет — мэрцішор. Рэй на вечарыне вяла старшыня грамадскай арганізацыі "Таварыства малдаван" Антаніна Валько. З прывітальным словам і віншаваннем да прысутных звярнуўся консул пасольства Рэспублікі Малдова ў Беларусі Георгій Солтан. Выступіў таксама старшыня таварыства дружбы "Беларусь — Малдова", паэт і перакладчык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Уладзімір Скарынкін, песню на словы якога "Белая Русь ты мая" ведае ўся наша краіна.

Віталі прысутных прадстаўнік адміністрацыі Фрунзенскага раёна сталіцы Алеся Федаровіч і дырэктар бібліятэкі Алена Курбатава. Затым пачаўся святочны канцэрт. Нікога не пакінулі абыякавымі хвацкія малдаўскія танцы і мілагучныя песні, якія выканалі вакальна-харэаграфічны ансамбль "Плай" і танцавальны дуэт у складзе Таццяны Дзмітрыенкі і Вячаслава Ушакова. Але найбольшы поспех мела выступленне артыстаў з Дзяржыншчыны. Вакальная група "Прымэвара" ("Вясна") выканала цудоўную песню пра дружбу малдаўскага і беларускага народаў "Беларусь — Малдова". Вечарына стала яркай, прыгожай кветкай, уплеценай у вянок Вясны, у вянок беларуска-малдаўскага сяброўства.



***На здымку: артысты з Дзяржыншчыны.***

З-пад пяра

Культурным адносінам з Эстоніяй надаецца вялікая ўвага. Сведчаннем — сустрэчы на высокім узроўні, на якіх падкрэслівалася зацікаўленасць супрацоўніцтвам у галіне кінематографа, адукацыі і тэатральнага мастацтва і абмяркоўвалася правядзенне Дзён эстонскага кіно ў Беларусі. Добрым прыкладам плённага супрацоўніцтва нашых краін стала стужка "Адзінокі востраў" эстонскага рэжысёра Пеэтэра Сіма, якую ў сакавіку ўбачаць жыхары і госці сталіцы і ўсіх абласных цэнтраў Беларусі. Фільм фінансаваўся і здымаўся на тэрыторыі трох дзяржаў: Латвіі, Эстоніі, Беларусі, у арыгінале гучыць на чатырох мовах: беларускай, рускай, эстонскай, латышскай. У пяці жыццёвых гісторыях, якія развіваюцца паралельна і перакрыжоўваюцца паміж сабой, многія ролі выконваюць вядомыя беларускія акцёры Святлана Зелянкоўская, Ігар Сігоў, Валерыя Арланава, Вольга Водчыц, Уладзімір Грыцэўскі-малодшы і іншыя. Блюз для фільма напісаў Аляксей Шадзько.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Фотавыстаўка "Холі", прысвечаная Індыі, была прапанавана мінскаму гледачу суайчыннiцай Кацярынай Дардзюк. Назву сваю выстаўка атрымала ў гонар індыйскага народнага свята Холі — фестывалю фарбаў. Аднак фотамастачцы ўдалося расказаць не толькі пра Індыю святочную, але і пра Індыю будзённую, пра яе жыхароў — бедных і багатых, шчаслівых і сумных, пра ўсё тое цікавае, дзіўнае, экзатычнае, за што чапляецца позірк турыста з Еўропы, які неўзабаве апынаецца на старажытнай індыйскай зямлі. Кацярына падзяліла экспазіцыю на чатыры часткі: жоўтую, чырвоную, сінюю і зялёную, бо на кожным яе фотаздымку пры ўсёй яго яркасці пераважае нейкі адзін колер. Фотакарціны беларускі былі высока ацэнены Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Індыі ў Беларусі Маноджам Кумарам.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Пераможцай конкурсу малога апавядання, які штогод праводзяць газета "Звязда" і Саюз пісьменнікаў Беларусі, стала член літаратурнага аб'яднання "Астравецкай зямлі галасы", якое дзейнічае пры газеце "Астравецкая праўда", Алёна Ганулiч. Першай прэміяй было адзначана яе апавяданне "Анёлы", складзенае з навел. Алёна піша вельмі шчырыя і пранікнёныя навелы і кароткія апавяданні. У дзяўчыны — свой адметны мастацкі почырк і стыль. І хаця яна пакуль робіць толькі першыя крокі ў творчасці, яны вельмі самабытныя і ўпэўненыя. Перамога ў такім прэстыжным конкурсе — лішняе таму пацвярджэнне.

**Ніна АЛЯКСЕЕВА**

Ва ўтульнай зале Мінскай гарадской бібліятэкі № 5 прайшла прэзентацыя новай кнігі вядомага пісьменніка і мастака Сяргея Давідовіча. Пранікнёна гучалі вершы ў выкананні аўтара і народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч. Творца адказаў на пытанні слухачоў, падарыў свае кнігі з аўтографамі. Прысутныя азнаёміліся таксама з выстаўкай мастацкіх твораў Сяргея Давідовіча.

**Таіса ГУРКО**

У сярэдняй школе № 132 г. Мінска прайшоў урок мужнасці. Правялі яго пісьменнікі Уладзімір Мацвеенка і Анатоль Зэкаў. Уладзіміру Іванавічу было 12 гадоў, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. З затоенай увагай слухалі школьнікі яго шчымлівы аповед пра жыццё ў акупацыйным Мінску, пра зверствы фашыстаў і жахі падчас ваеннага ліхалецця, якія зведаў хлапчук і яго сям'я, пра тое, з якой радасцю сустрэлі гараджане доўгачаканы дзень вызвалення. Анатоль Зэкаў, які нарадзіўся праз дзесяць гадоў пасля вайны, у сваёй творчасці таксама не абышоў увагай гэтую хвалюючую тэму, пра што засведчылі вершы, прачытаныя ім на ўроку мужнасці.

**Анатоль ПАТАПЧУК**

# Шкада, што так атрымалася...

Лада АЛЕЙНІК

**У нас ва ўсіх вельмі розныя чытацкія густы. Таму я не прэтэндую на абагульненне, а выказваю толькі сваё прыватнае меркаванне. Дык вось асабіста мне ў сённяшняй літаратуры не хапае цікавых сюжэтных гісторый... Рэалістычных гісторый пра жыццё, пра сучаснікаў, пра натуральныя чалавечыя адносіны. Не хапае герояў, якія калі б не захаплялі, то хаця б выклікалі шчырае суперажыванне.**

Апавяданне Аляксандра Брыта "Апошні джэб" ("Маладосць", 2011, № 11) прыцягвае ўвагу менавіта гэтымі дзвюма якасцямі — адмысловым сюжэтам, у аснове якога неардынарная гісторыя жаночага лёсу, і па-свойму эфектным вобразам галоўнай гераіні. Але калі ахарактарызаваць агульныя ўражанні ад твора, то яны блізкія да прыкрасці. Бо выключна цікавы сюжэт меў усе падставы зрабіцца паўнавартаснай аповесцю — арыгінальнай і змястоўнай...

Пярэчанні выклікала ўжо сама жанравая атрыбуцыя твора. Паводле фармальных прыкмет тэкст хутчэй ідэнтыфікуецца з аповесцю, чым з апавяданнем — падзеі ахопліваюць вялікую часавую прастору (амаль дваццаць год), сюжэт мае даволі разгалінаваную структуру, дый сам па сабе аб'ём твора даволі салідны. Відавочна, што рамкі апавядання для гэтага мастацкага тэксту вузкія. Але пры наяўнасці ўсіх пералічаных прыкмет да аповесці твор тым не менш не дацягвае... Думаецца, аўтар і сам адчуў гэтую "неадпаведнасць", калі паміж дзвюх атрыбуцый спыніў выбар на больш "сціплай".

Магчыма, нехта палічыць, што фармальныя жанравыя прыкметы — справа дзясятая і не вартая празмернай увагі. У пэўнай ступені — так. Але, думаецца, менавіта адчуванне неадпаведнасці твора жанравым патрабаванням павінна быць першым "сігналам" для аўтара. Гэта сведчыць, што тэкст альбо перанасычаны другаснымі падзеямі і дэталямі, альбо яму чагосьці бракуе. З майго пункту гледжання, з творам Аляксандра Брыта — другі выпадак, яго тэксту шмат чаго менавіта "бракуе".

Несумненна, зачын гісторыі па-свойму "чапляе", але разам з тым ужо тут узнікае першае адчуванне залішняй імгненнасці падзей і спецыфічнай эмацыйнай чэрствасці аповеду. У берлінскай клініцы жанчына нарадзіла дзіця. Літаральна некалькі абзацаў адлюстроўваюць душэўнае ўзрушэнне Аляксандры — галоўнай гераіні твора, а далей падзеі імкліва сягаюць у мінулае — яна згадвае сваё дзяцінства, якое прайшло ў дзіцячым доме.

Рэтраспекцыя першых гадоў жыцця, якія вызначылі не толькі характар Аляксандры, але і яе жыццёвыя арыенціры, здавалася б, заслугоўвае дэталёвага асвятлення. Аднак падзеі мінулага абмалёўваюцца павярхоўна, накідамі, ледзь не пункцірнымі штрыхамі. Фактычна ніводны персанаж з дзіцячага дома не адлюстраваны паўнавартасна. Некаторыя эпізоды выглядаюць недапрацаванымі, няўцямнымі. Гэта датычыць, напрыклад, Крошкі, у асобе якога дзяўчынка адчула родную душу. Пра яго — пара фраз, і ўсё... "Падсобныя рабочыя вынеслі старую няўстойлівую шафу на вуліцу, і калі дзеці выйшлі на прагулку, шафа да смерці прыціснула Крошку". Гэта датычыць Марыны, па якую прыехаў міліцыянер... З Марынай, між іншым, увогуле ўсё заблытана.

"У дзіцячым доме дзеці жылі самыя розныя. У адных бацькі памерлі, ад другіх — адмовіліся. У трэціх жа бацькі меліся, але іх пазбавілі бацькоўскіх правоў. Родзічы Марыны былі з апошніх. Яны далі жыццё яшчэ адной дзяўчынцы, але Марына яе забрала. Чутка ў дзіцячым доме адбілася ў такой версіі: немаўля знайшоў дворнік у падвале. Пры ёй мелася запасная скамечаная пялёнка, танныя цукеркі і малапісьменная запіска з вучнёўскага сшытка: «Тибе будзіт там лепш»". Шчыра кажучы, гэтыя радкі я прачытала разоў дзесяць. Але так і не зразумела, *якім чынам*, жывучы ў дзіцячым доме, гераіня "забрала" (выкрала ў бацькоў?) немаўля, у якім падвале знайшоў гэтае дзіця дворнік... Дый увогуле... ці было яно жывое? Пытанні застаюцца без адказу, болей пра Марыну аўтар нічога не паведамляе.

Шмат у творы ўсялякіх моўных хібаў і недарэчнасцей. З таго, што вышэй цытавалася, гэта, напрыклад, шафа, што "да смерці прыціснула Крошку"... Не тыя словы! Гібель хлопчыка павінна тлумачыцца больш дакладна. Не гэтай невыразнай фразай. Тут патрэбна як мінімум некалькі сказаў: як дзіця закранула тую шафу, як яна ўпала на яго... — рухі, жэсты, дэталі. Каб чытач увачавідкі ўбачыў трагічны выпадак, каб сітуацыя не выглядала такой штучнай.

Альбо эпізод, калі дзеці б'юць Аляксандру за хлусню. (Дзяўчынка выдумляе, што яе мама — знакамітая акцёрка і прыязджае ў дзіцячы дом па начах). У карціне сваркі-бойкі ўвасоблена нечаканая фраза: "Самы лёгкі ўдар лёсу — гэта мамін пляскач па заднім месцы..." Метафара, па меншай меры, дзіўная. Яна не толькі не стасуецца з сітуацыяй, але і супярэчыць логіцы — дзяўчынка не ведае сваёй маці, адкуль жа ўзяцца "мамінаму плескачу"?

А вось наступны эпізод падаецца амаль "сімвалічным", ён па-свойму характарызуе ўвесь твор. Прывяду вытрымку з тэксту: "Дзён праз дзесяць Аляксандра сядзела ў спальні на сваім ложку. Разглядала малюнкі ў нейкай кніжцы. Дзеці гулялі асобна, убаку. Яна заўважыла Марыну ***занадта позна*** [вылучана мной. — ***Л. А.***], амаль ля тумбачкі, якая падзяляла іх месцы для сну. Спачатку яна ўбачыла вочы Марыны. Яны былі такія ж, як у Крошкі, калі яго прыціснула шафа, — спалоханыя. І толькі потым звярнула ўвагу на збялелую выхавацельку і міліцыянера.

— Збірай рэчы, хутка, — загадала выхавацелька.

Нізка апусціўшы галаву, Марына дастала пакет і пачала складаць у яго зубную шчотку, мыла, хэбэшныя калготкі... і раптам павярнулася да яе і працягнула сваю заколку.

— Вазьмі... Гэта табе. Проста так.

Аляксандра паглядзела на яе са здзіўленнем, і Марына паўтарыла:

— Проста так...

Марыну павялі, і ўсе дзеці кінуліся да акна, абляпілі падаконнік, як мухі. <...> Нічога асаблівага яны не ўбачылі. Міліцыянер падсадзіў Марыну ў міліцэйскі "ўазік", і яны назаўсёды з'ехалі".

Пакіну без увагі "хэбэшныя калготкі", хаця і не ўяўляю, чым аўтару не прыдаліся "баваўняныя". Зараз я пра іншае. Пра тое, што Аляксандра заўважыла Марыну "занадта позна". "Занадта позна" для чаго? Падаецца, што далей павінна здарыцца штосьці няўхільнае, незваротнае — рэзкае дзеянне накшталт удару... Але нічога такога не адбываецца. ...Дык вось падобнае адчуванне пераследавала мяне на працягу ўсяго твора — здавалася, што вось-вось павінна нешта адбыцца, але... чаканне так і не спраўдзілася.

*Магчыма, нехта палічыць, што фармальныя жанравыя прыкметы — справа дзясятая і не вартая празмернай увагі. У пэўнай ступені — так. Але, думаецца, менавіта адчуванне неадпаведнасці твора жанравым патрабаванням павінна быць першым "сігналам" для аўтара.*

*...на працягу ўсяго твора здавалася, што вось-вось павінна нешта адбыцца, але... чаканне так і не спраўдзілася.*

Ключавыя сюжэтныя падзеі — гэта гісторыя спартыўнай кар'еры Аляксандры. Дзяўчынка, у якой ва ўсім свеце няма ніводнага роднага чалавека і якой даводзіцца разлічваць толькі на сябе, "адчула ў сабе нясцерпнае жаданне быць мацнейшай за абставіны". Па парадзе дзетдомаўскага фізрука, які разгледзеў у сваёй выхаванцы валявыя якасці, яна паступіла "на факультэт фізічнай культуры Гомельскага ўніверсітэта". А прыкрая выпадковасць, калі на абразлівую рэпліку хлопца Аляксандра адказвае "ўдарам у сонечнае спляценне", вызначае далейшы напрамак спартыўнай кар'еры дзяўчыны — бокс...

Калі зачын твора, пры ўсіх яго выдатках і агрэхах, выглядаў збольшага "па-мастацку", то цэнтральныя падзеі — шлях у Германію і ўся гісторыя ўзыходжання Аляксандры — нагадваюць ці то біяграфічны нарыс, ці то справаздачу... "Такім чынам, кожны дзень у шэсць раніцы яна рабіла прабежку. Вольф вёз яе да Швабскіх узгоркаў, і яна бегла 6 кіламетраў. Угару. Перападзе машыны. Да васьмі яна плавала ў басейне, прымала кантрасны душ і ў восем снедала. Ад васьмі да дзевяці быў прагматычны адпачынак: па рэкамендацыі Вольфа яна глядзела на відэа жаночыя баксёрскія баі і рабіла ў нататніку заметкі. Ад дзевяці да трынаццаці нястомна займалася ў спартзале. Ад трынаццаці да чатырнаццаці зубрыла і падцягвала нямецкую мову. У чатырнаццаць абедала. У пятнаццаць ішла на працу ў фітнес-клуб і зарабляла сабе на жыццё: інструктавала, сачыла за парадкам, тлумачыла, як карыстацца трэнажорамі. З дзевятнаццаці да дваццаці рабіла лёгкую прабежку ўздоўж гарадской ракі Неккар, прымала душ, вячэрала, глядзела навіны і ў дзесяць клалася спаць".

Вядома, калі гаворка ідзе пра шлях да вяршыні ў адным з самых жорсткіх відаў спорту, то без дэталяў, якія падкрэсліваюць напружанасць працы і аскетызм жыцця, не абысціся. Але пісьменніцкае майстэрства якраз у тым і заключаецца, каб паказаць гэта не элементарна, а ва ўсёй складанасці — шматгранна, вобразна, эмацыйна завострана.

Відавочна, што інтуітыўна аўтар адчувае моманты, якія заслугоўваюць "узбуйнення" і спецыфічнай пільнасці. Пра гэта сведчаць, напрыклад, неаднаразовыя спробы зрабіць акцэнт на ўнутраным жыцці Аляксандры. Але нават балючы перажыванні, кшталту дзетдомаўскіх комплексаў, ад прэсінгу якіх пакутуе Аляксандра, выяўлены ў творы спрошчана і апісальна. Узнікае дзіўны дысананс... Дынаміка падзей нібыта ёсць, а вобраз гераіні застаецца статычным. Праблема мне тут бачыцца ў слаўтым псіхалагізме, дакладней, у яго адсутнасці. Аўтар ***паведамляе*** нам пра тое, што адбываецца — канстатуе факты альбо называе-пералічвае падзеі, але не заглыбляецца ні ў душу, ні ў свядомасць гераіні, не выяўляе яе асабісты мікрасвет. Асобу характарызуе ўсё — узаемадачыненні з іншымі людзьмі, маўленне і стыль паводзін, думкі і развагі, адценні пачуццяў і эмоцый... Міміка, у рэшце рэшт! Толькі пры ўзаемадзеянні ўсіх гэтых элементаў герой "ажывае", набывае індывідуальнасць, характар. Аляксандра ж выяўлена на дзіва безаблічна, а яе жыццё выглядае герметычным, ізаляваным ад усіх і ўсяго... Ніякіх сувязей са знешнім светам! Нават муж, які нечакана з'яўляецца ў сюжэце, фактычна выконвае ролю статыста...

Ідэя, якую даводзіць аўтар, зразумелая. Знаходзячыся на вяршыні кар'еры, Аляксандра зацяжарала і апынулася перад выбарам — працягваць заняткі спортам ці нарадзіць дзіця. Былая выхаванка дзіцячага дома выбірае мацярынства. Усё празрыста, усё годна і правільна. Але вось што дзіўна... Гісторыя быццам бы кранальная і нетрывіяльная. Аднак захаплення яна ў мяне не выклікала, хутчэй, наадварот, — збянтэжыла і расчаравала.

Вядома, агульнае ўражанне ад твора складваецца з мноства розных фактараў. Сярод тых элементаў, якія ўзмацнілі маё негатыўнае ўспрыняцце тэксту — паралелі паміж вобразам гераіні і старажытнымі амазонкамі. Спачатку гэта былі далікатныя "намёкі" — кшталту назвы артыкула пра знакамітага германскага трэнера, якога пазней расшукала дзяўчына, — "Амазонкі спадара Шмітца", альбо дробнага эпізоду снабачання Аляксандры, дзе яна паўстае ў выглядзе "амазонкі на аргамаку". Толькі ў фінале твора на вобразах амазонак робіцца больш відавочны акцэнт — калі нейкая "загадкавая жанчына" пераключае тэлевізійныя каналы і выпадкова чуе ўрывак з перадачы: "Упершыню звесткі пра жанчын-ваяўніц, названых у далейшым амазонкамі, з'явіліся ў старажытнагрэчаскіх гісторыкаў, — распавядаў нейкі сталы вучоны. — Згадкі пра амазонак сустракаюцца ў легендах і міфах многіх народаў свету, у тым ліку і ў персаў. Дакладнасць фактаў пра існаванне ў мінулым амазонак доўга і ўпарта аспрэчвалася, нягледзячы на знаходкі археолагаў". Такі ж прыём — паралелі паміж амазонкамі і галоўнай гераіняй — выкарыстаў у свой час вядомы шведскі дэтэктывіст Стыг Ларсан у заключным рамане трылогіі "Міленіум". Не буду сцвярджаць, што Аляксандр Брыт свядома запазычыў ідэю ў шведскага пісьменніка. Цалкам дапускаю, што гэта можа быць супадзеннем. Але, зразумела, гэты факт не павялічыў маёй сімпатыі да твора...

Ну, і датычна памянёнай крыху вышэй "загадкавай жанчыны", якая з'яўляецца ў фінале гісторыі. Як на мой густ, то эпілог твора — гэта эпітафія ўсёй гісторыі. Бо падобная развязка — з галіны "ванільна-карамельных меладрам" — здольна закрэсліць нават самы густоўны і па-мастацку дасканалы тэкст. ...З'яўленне ўладальніцы "серабрыстай «Таёты»", а таксама "бялявых валасоў" і "доўгіх пальцаў" з "нафарбаванымі пазногцямі" — маці Аляксандры — прастатакі ўражвае. У горшым сэнсе гэтага слова. Зразумела, чытач мае магчымасць самастойна "дадумаць" дэталі — адкуль яна ўзялася, хто і як яе расшукаў. Аднак уся мітусня гэтай кабеты — рэстаран, "салата з крэветак і кава", імпульсіўныя ўцёкі з рэстарана, раптоўная аўтамабільная аварыя і далейшы бег жанчыны па вуліцы — "...падвярнула нагу, зламала абцас, упала <...>, расшпіліла боты, сцягнула іх і пабегла басанож" — каб паспець уключыць тэлевізар і ўбачыць паядынак дачкі... Даруйце, гэта не толькі пошла, але нават камічна.

У заключэнне хачу сказаць адно — мне шкада, што так атрымалася.

# Жанчыны без маскі

Ліна ЧАРНЯЎСКАЯ

**Паняцце "жаночая проза" адносна новае для беларускай літаратуры. Адны даследчыкі лічаць яго выключна ацэначным. Іншыя не бачаць аб'ектыўных падстаў для выкарыстання такога тэрміна, бо вытокі жаночай прозы грунтуюцца на ідэалогіі фемінізму, якая не мела развіцця на Беларусі.**

Жаночая проза стала вынікам росту сацыяльнай значнасці жанчыны. Проза такога кшталту эгацэнтрызаваная, яна змяшчае адметны досвед жанчыны, выяўляе гендарныя праблемы, значна дапаўняе сістэму жаночых вобразаў у айчыннай літаратуры і руйнуе стэрэатыпы.

Галоўная мэта такой прозы — паказаць сапраўдную жанчыну, без прыдуманых мужчынамі рыс, з сапраўднай жаночай фізіялогіяй і мадэлямі паводзін. У вузкім сэнсе яе можна лічыць спадчынай фемінізму, у шырокім — спецыфічнай літаратурай пра ўласны досвед і светаўспрыманне. Аднак цяжка дакладна вызначыць межы, бо ў творы, напісаным жанчынай, можна знайсці (або дадумаць) рысы жаноцкасці.

Мастацкія прыёмы, што выкарыстоўваюць аўтаркі, залежаць ад спецыфічнага жаночага, часам траўматычнага, досведу і прынцыпаў жаночага "цялеснага" пісьма. Вобразы гераінь адначасова і паўтараюцца ў рэальных прадстаўніцах слабага полу, нясуць нешта "ўсеагульнае", і маюць нешта індывідуальнае. У гераіні мужчынскай літаратуры можа быць шмат масак. А гераіня жаночай прозы жыве без штучнага вобраза.

Аўтаркі заклікаюць чытачак не саромецца сваёй жаночай сутнасці, адкінуць стэрэатыпы накшталт "Прыгажосць уратуе свет", не прыносіць у ахвяру сваю індывідуальнасць, не прыпадабняцца да свету, створанага і ўяўляемага мужчынамі.

Пісьменніцы адмаўляюць былую формулу адлюстравання: жанчына можа быць толькі такая ± асобныя выразныя рысы/якасці. Адмаўляюць замоўчванне пэўных неэстэтычных рыс.

Таму для непадрыхтаванага чытача кніга жаночай прозы можа стацца прычынай стрэсу. Мужчыны часам наогул кажуць пра пачуццё агіды, таму што прачытанае выходзіць для іх за межы магчымага, ўяўнага.

Варта падкрэсліць, што жаночая проза не тоесная жаночай літаратуры і не ўключае масавы жаночы раман. Яна апісвае досвед жанчыны, сыходзячы з асаблівасцей яе сацыяльнага самаадчування, жадання выразіць сябе. А жаночая літаратура — гэта, па сутнасці, усё тое, што створана ў літаратуры жанчынамі.

Пераважная большасць твораў жаночай прозы напісана ад першай асобы. Такі прыём ствараe ўражанне чытання дзённіка. Аповед можна прыняць і за споведзь, і за інтымную сяброўскую гутарку. Тым больш што свайму ўнутранаму свету галоўная гераіня надае больш увагі, чым знешняму.

Такая проза арыентавана на жанчыну-чытача, хоць прадугледжвае і мужчынскую ацэнку. Жаночую прозу ў беларускай літаратуры складана вызначыць і даследаваць, яе рысы адрозніваюцца, паколькі, па-першае, фемінізм у Беларусі не быў актуальны, па-другое, паўплывала дыскрэтнае развіццё нашай літаратуры.

Сярод прадстаўніц жаночай плыні ў беларускай літаратуры можна вылучыць Алену Брава. Феміністычны дыскурс у яе творах мае самыя розныя праяўленні. Пісьменніца паказвае і маладую, даверлівую дзяўчыну ("Менада і яе сатыры"), і моцную, прабіўную жанчыну ("Сон піянеркі"). Увогуле, творы Алены Брава найбольш насычаныя жаночымі прыгодамі (=нягодамі). Напрыклад, з аповесці "Менада і яе сатыры" можна вывесці своеасаблівую мараль-канстатацыю: будзеце такія ж, як Юля (галоўная гераіня), скончыце гэтак жа, як яна. Большасць жанчын прыпадабняецца да мужчыны, каб захаваць адносіны. Але не кожная застаецца вернай і не ў кожнай узнікне мара пра Вялікае Каханне. Неабходнасць прыпадабняцца пярэчыць глыбокай індывідуальнасці гераіні. Гэты канфлікт найбольш яскрава ілюструе феміністычны дыскурс у беларускай літаратуры.

Што да частковай ці поўнай дыскрымінацыі мужчынскага пачатку, уласцівай жаночай прозе, то і гэтая рыса прысутнічае ў А. Брава. Гераіні большасці яе твораў ставяцца да мужчыны, як да парасона. Вельмі добра, калі ён ёсць. Ён закрые ў час дажджу, ён дапоўніць убор, як прыгожы (калі прыгожы) аксесуар. Але раптам ён згубіцца — не вялікая наўда, у любы момант можна купіць іншы. Напрыклад, Юля з "Менады" кахае не столькі мужчыну, колькі створаны ёю свядомасцю ідэальны вобраз, можна нават сказаць, што Юля кахае само каханне. Алеся ("Каменданцкі час для ластавак") без вялікага жалю пакідае свайго кубінскага мужа (ёй трэба найперш выратаваць дачку).



Рамантычныя і моцныя гераіні Югасі Каляды існуюць у больш цесных сувязях з асяроддзем, соцыумам. Гэтыя сувязі шматлікія і разгалінаваныя. Яшчэ адна асаблівасць твораў Югасі Каляды ў пільнай увазе да гераіні, дробязей яе жыцця.

Жаночая проза ў сучаснай беларускай літаратуры патрабуе больш пільнай увагі. Але спадчына папярэдніх пакаленняў настолькі ўплывовая, што часта літаратурныя эксперыменты не прымаюцца даследчыкамі ўсур'ёз. Разам з тым не заўважаць творы, якія маюць рысы жаночай прозы, ужо нельга. Гэты кірунак набывае папулярнасць.

# Вынікі сінтэзу

Ірына БАЖОК

**Адной з яскравых адметнасцей інтэлектуальнай літаратуры з'яўляецца яе сінтэтычны характар. Звычайна ў тэксце спалучаюцца музыка, жывапіс, графіка, філасофія, рэлігія, псіхалогія (псіхіятрыя), тэхнічныя навукі. Гэта не значыць, што ў літаратурным творы апісваюцца вышэйпералічаныя віды мастацтва або навуковыя дасягненні. Інтэлектуальная літаратура — гэта літаратура, пабудаваная паводле законаў жывапісу, музыкі, псіхалогіі і г. д. Юрась Барысевіч заўважае, што "эксперыментальная літаратура з яе напаўабстрактнымі тэкстамі мае нашмат больш глыбокія карані, чым літаратура рэалістычная, гісторыя якой вымяраецца некалькімі стагоддзямі".**

**Літаратура і візуальнае мастацтва.**

Першабытнае мастацтва было **сінкрэтычным**, а пачынаючы з IX стагоддзя да н. э. з'явіліся першыя спробы **сінтэтызму**. Вынікам сінтэзу літаратуры, жывапісу і графікі сталі візуальная і графічная паэзія (фігурныя вершы, каліграмы — сінтэз музыкі, жывапісу, літаратуры [Г. Апалінэр]). Паводле слоў Ю. Барысевіча, "першыя мастакі, што малявалі на сценах пячораў і костках, былі абстракцыяністамі: выявы жывёлаў з'явіліся значна пазней; калі самім жывёлам — малпам ці сланам — даюць пэндзлі і фарбы, яны таксама малююць не партрэты знаёмых, а нешта такое ж загадкавае, як іерогліфы, якімі пішуць вецер і дождж".

Фігурныя вершы — тэксты, радкі якіх размешчаныя такім чынам, што ўвесь тэкст мае абрысы нейкай фігуры — зоркі, крыжа, сэрца, вазы, трохкутніка, піраміды і г. д. Такія вершы былі вядомыя ўжо ў глыбокай старажытнасці, а іх вынаходніцтва прыпісваецца грэчаскаму паэту Сімію Радоскаму, які жыў, паводле адных дадзеных, у VII ст. да нараджэння Хрыстова, паводле іншых — у IV ст. Сярод ягонай творчай спадчыны захаваліся тры фігурныя вершы — у выглядзе сякеры, крылаў і яйка, прычым форма кожнага адпавядае тэме.

Сучасныя паэты часта звяртаюцца да **візуальнай і графічнай паэзіі**, пашыраючы іх магчымасці. Кніга М.Башуры "Паліванне на мух (са шланга)" амаль цалкам пабудавана на некласічным афармленні. Найбольшае распаўсюджанне фігурных верш атрымаў у творчасці В. Жыбуля. Акрамя лесвіцы, якая выкарыстоўвалася і раней беларускімі паэтамі, сустракаюцца вершы, абрысы якіх нагадваюць цела чалавека, кропку або невядомую геаметрычную фігуру з вельмі правільнымі роўнымі рысамі ("Плюмбікон"). Вялікі аматар графічнай паэзіі — Серж Мінскевіч. Сярод яго "тварэнняў" — выявы месяца, ДНК, чалавека, стужкі і інш.

Фігурныя вершы называюць **"інтэлектуальнай гульнёй у форме мастацтва"**. Стварэнне і чытанне графічнай паэзіі развівае фантазію і асацыятыўнае мысленне. Для чытачоў фігурныя вершы — гэта інструмент, які дае магчымасць карыстацца сінтэтычным відам мыслення.

**Літаратура і інфарматыка.** Ю.Лотман казаў, што "на сучасным этапе значныя змены ў культуры могуць адбыцца толькі тады, калі адбудзецца рэвалюцыя ў камунікатыўных сродках перадачы інфармацыі". З'яўленне тэхнічнага пісьма істотна змяніла змест і форму тэкстаў. З'явілася камп'ютарная графіка, электронная пошта, і нават тэксты на мабільных тэлефонах маюць свой уласны стыль.

Сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі сталі неад'емным атрыбутам не толькі нашага жыцця, але і літаратурнай рэальнасці. Сёння мы можам гаварыць пра **інтэрнэт як асобную і асобую сферу існавання розных відаў мастацтва**. Спляценне мовы, метадаў, магчымасцей віртуальнай прасторы і літаратуры відавочнае.

Гісторыя літаратурна-мастацкіх плыняў даводзіць, што дасягненні навукі і тэхнікі заўсёды мелі значны ўплыў на форму і змест твораў пэўнага перыяду. Таму заканамерна, што і сёння гэтыя тэндэнцыі характэрныя для літаратуры. У наш час, калі камп'ютар — прадмет не новы і не дзіўны, варта прыглядзецца да яго сутнасці, увасобленай у мастацтве.

"Ты гарыш, манітор. // Ты чакаеш мяне", — так пачынаецца адзін з вершаў Маргарыты Аляшкевіч. Такі зварот паказвае на непадзельнасць жывога і нежывога. У літаратуры папярэдніх стагоддзяў у гэтыя самыя радкі замест слова "манітор" арганічна ўпісалася б словазлучэнне "агонь рэвалюцыі".

Яскравым прыкладам сінтэзу літаратуры і інфарматыкі з'яўляецца кніга А. Хадановіча "Сто лі100ў на tut.by". Вершы (часта пабудаваныя на гульні слоў, якія маюць і нейтральнае, і "камп'ютарызаванае" значэнне, служаць доказам новай манеры пісьма, аўтарскага стылю:

*— Баяць ці не?*
*— Тут бай!*

У сувязі з актыўным выкарыстаннем інтэрнэту **мяняюцца і катэгорыі часу і прасторы**. Дарэчы, паводле слоў Сяргея Балаханова, "часава-прасторавы кактэйль — часты госць у вершах Андрэя Хадановіча". Лірычны (амаль заўсёды і галоўны) герой верша імкнецца дадому. Гэта проста мізэрная прастора, і, больш за тое, яна зусім не выкарыстоўваецца для стварэння дзеяння. Прастора абмяжоўваецца месцам, якое асвятляе манітор. А час пераносіцца з дня на ноч, на мяжу паміж сёння і ўчора.

Моцнае ўздзеянне аказаў інтэрнэт таксама на эпісталярны жанр. Вершы-лісты атрымалі новае афармленне. Ранейшае "інтымна-асабістае" ператварылася ў "чытай, хто знойдзе". Віртуальнае пасланне мае адрасата са змененым іменем.

Натуральнае і параўнанне інтэрнэту з сусветнай павуцінай, што трывала замацавалася ў нашай свядомасці і ўспрымаецца на ўзроўні асацыяцый.

Своеасаблівая **камп'ютарызацыя зместу** твора мае вынікам апрадмечванне з'яў рэчаіснасці, калі нават чалавек успрымаецца як знак, а не як індывідуальнасць.

Колькасць сімвалаў, шрыфтоў, моў, якімі карыстаюцца пісьменнікі, надта вялікая. Можна сустрэць таксама спалучэнне некалькіх алфавітаў: *Крэслячы адрас на шкле лабавым: // www. snezhny com.* (А. Хадановіч)

Чалавечы фактар у большасці выпадкаў пераважае. Генетычнае імкненне рабіць нешта сваімі рукамі і сваім розумам, тварыць нават фантастычнае — значна вышэй за любую камп'ютарызацыю. Тут можна казаць пра беларускі менталітэт:

*самі*
*сваімі рукамі*
*драілі неба*
*ноччу паласкалі…*
*А можна ж было*
*ўзяць яго*
*скамечыць*
*ды запхаць у пральную машыну.*
(В. Жыбуль. Сандзень)

Гаворачы пра ўплыў інтэрнэту, варта сказаць, што інтэлектуальная літаратура ў многім апярэдзіла яго: напрыклад, структура "Хазарскага слоўніка" М. Павіча ў ідэале павінна была адпавядаць методыцы пошуку інфармацыі ў інтэрнэце (гіпертэкст).

Акрамя інфарматыкі і візуальнага мастацтва сінтэтычны характар сучаснай беларускай паэзіі праявіўся ў спалучэнні літаратуры і музыкі, псіхіятрыі, хіміі, жывапісу.

Асаблівай увагі патрабуе музыка, якую Томас Ман, аўтар знакамітага "Доктара Фаўстуса", лічыў самай духоўнай і ўніверсальнай з'явай. Сапраўды, запісаць блюз, накцюрн або капрычы паэтычнымі радкамі аказалася магчымым толькі дзякуючы прадстаўнікам інтэлектуальнай плыні ў літаратуры. М. Барадзіна ў "Чорным капрычы" перадае музычны рытм з дапамогай асаблівага выкарыстання сілаба-тонікі:

*Маці Божая! Колькі падэшваў*
*танцавала на выспе*
*ўсіх самагубцаў*
*і адно суцяшэнне*
*было ў іх — хвалісты*
*смаляны перавал —*
*мастом у вар'яцтва.*
*Дугой у колер.*

*Нават муміі плакалі перад*
*гэтым роспачна*
*юным абліччам*
*з глухім трэскам*
*ломячы кволыя рукі*
*чарнагорыя бровы —*
*мастом у вар'яцтва.*
*Дугой у колер.*

Кожны паэт імкнецца стварыць сваю сістэму пісьма. Але сінтэтызм цесна звязаны з праблемай універсальнасці паэзіі, якая, паводле слоў І. Штэйнера, ужо з часоў першых друкаваных кніг "набывае ўніверсальны характар, яна становіцца здольнай зрушыць або нават замяніць усе астатнія віды мастацтва".

Такім чынам, сінтэтызм — з'ява надзвычай распаўсюджаная ў сучаснай інтэлектуальнай паэзіі. Ён яшчэ ў часы "інтэлектуальнага рамана" адыгрываў вядучую ролю ў стварэнні і інтэрпрэтацыі тэксту. Сінтэтычная паэзія патрабуе шырокага выкарыстання ведаў у розных галінах навукі і мастацтва.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Словакраязнаўцы



**Анатоль БЕНЗЯРУК, кнігі якога добра вядомы ў навуковым і краязнаўчым асяроддзі, распавядае пра свае пошукі і знаходкі:**

— Па першай адукацыі я гісторык, сем гадоў аддаў школе. Потым дзве пяцігодкі служыў ахове гісторыка-культурнай спадчыны Жабінкаўскага раёна. За гэты час былі створаны раённы гісторыка-краязнаўчы музей, пабудаваны адзіны ў Беларусі помнік-капліца, прысвечаны бітве касцюшкаўскіх часоў, адкрыта шмат цікавых старонак роднай гісторыі. Калі запрасілі на работу ў жабінкаўскую райгазету "Сельская праўда", зразумеў: новае месца вымагае новых ведаў. Таму скончыў Інстытут журналістыкі БДУ, дзе пазнаёміўся з вядомымі майстрамі пяра. Гэты каштоўны вопыт дапамог перамагчы ў абласным конкурсе СМІ у намінацыі "Ахова гісторыка-культурнай спадчыны".

Але прафесія не мае значэння, калі разумееш, што малая радзіма — акенца ў вялікі свет. Для мяне ўсё вельмі проста: трэба нарадзіцца ў Беларусі і быць у яе закаханым. Мая малая радзіма — вёска Бастынь на Лунінеччыне. Школу скончыў на Жабінкаўшчыне — у вёсцы Азяты, якой амаль 500 гадоў. Адсюль паходзяць вучоныя, ваенныя (нават сын маршала Францыі!). Хіба можна, маючы за плячамі тыя стагоддзі, такіх асоб, заставацца "глухім" да гісторыі роднага краю? Цікавасць прачнулася, паклікала ў пошук. І вось у маім творчым багажы дзевяць кніг.

Пра кнігі, як пра дзяцей, звычайна кажу: нарадзіліся… Самая любімая, першая — "Наш край — Жабінкаўшчына". Сапраўдны плён натхнення, своеасаблівы падручнік па краязнаўстве, па ім і цяпер настаўнікі вядуць заняткі са школьнікамі. Новая кніга "Свята для сэрца", якая ў 2009 годзе ўганаравана абласной літаратурнай прэміяй імя У. Калесніка, у пэўнай ступені — працяг першай. Хаця клопатаў шмат, я не магу без даследаванняў, без творчасці.

## У веры і згодзе

Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі запрашае пазнаёміцца з новай экспазіцыяй "Рэлігія і культура ў Беларусі", якая адлюстроўвае культурныя традыцыі праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай і пратэстанцкіх цэркваў на беларускіх землях у XIV — XVIII стст. Прадстаўленыя экспанаты ствараюць яркія вобразы мінулых эпох, дэманструюць багаты духоўны свет нашых продкаў. У канкрэтным гістарычным кантэксце яны асвятляюць вялікую ролю канфесійнага фактару ў развіцці архітэктуры, сакральнага мастацтва, кніжнай справы, адукацыі і асветы ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Тут можна ўбачыць старажытныя абразы XVI — XVII стст., скульптуру і старадрукі XVII — XVIII стст., літургічнае начынне і керамічныя вырабы XVIII ст., медныя культавае ліццё і рызы духавенства XVI — XVIII стст., у тым ліку аздобленыя слуцкімі паясамі арнаты, партрэты знакамітых дзеячаў. Экспазіцыя различана на тых, цікавяцца гісторыяй і культурай беларускіх зямель. А турысты і госці Гродна змогуць пазнаёміцца з культурнымі традыцыямі беларусаў і іншых народаў, якія на працягу стагоддзяў жывуць у згодзе.

Бажэна СТРОК

## Музейны ўнікат

# Чайнік з легендарнага «Варага»

**У цікавага экспаната з драгічынскага музея — чайніка, які быў выраблены больш як сто гадоў таму, ёсць свая незвычайная гісторыя.**

**Сяргей ГРАНІК, дырэктар драгічынскага Ваенна-гістарычнага музея імя Д. К. Удовікава, фота Івана Лявончыка**

Неяк, праходзячы міма металалому, які сабралі вучні Брашэвіцкай сярэдняй школы, я звярнуў увагу на чайнік вельмі ўжо незвычайнай формы і, відаць па ўсім, ручной работы. Разгледзеўшы яго, зразумеў, што ён медны. На адным з бакоў праглядваўся надпіс: "Долгунъ Трофим Кондратьевич. 25.02.1905 г." Тэкст упрыгожваў рускі марскі якар.

Мне захацелася хоць штосьці даведацца пра свайго земляка, ураджэнца Драгічыншчыны, Трафіма Даўгуна, чыё прозвішча было нанесена на чайнік. І неўзабаве пошук прывёў да ўнучкі гэтага чалавека, Сафіі Хілько, якая пражывае ў вёсцы Осаўцы. Яна і распавяла мне гісторыю свайго дзядулі, які жыў у вёсцы Брашэвічы нашага раёна. Аказалася, гэты незвычайны чайнік належаў менавіта яму. Трафім Даўгун, прынамсі, расказваў сваім родным, што служыў матросам на легендарным крэйсеры "Варяг" і ўдзельнічаў у Руска-Японскай вайне 1904 — 1905 гадоў. Вярнуўшыся дахаты, прывёз чайнік як успамін пра вайну.

Крэйсер "Варяг" пабудавалі па замове Расіі на амерыканскай суднаверфі ў Філадэльфіі. У свой час ён быў адным з самых сучасных караблёў рускага флоту. Камандаваў караблём капітан I рангу Усевалад Рунеў. Разам з экіпажам кананерскай лодкі "Карэец", знаходзячыся ў карэйскай бухце Чэмульпо, экіпаж "Варага" адхіліў прапанову японцаў здацца. Яны ўступілі ў бой з эскадрай адмірала Урыу, якая налічвала шэсць крэйсераў і восем мінаносцаў. Падчас бою сур'ёзна пашкодзілі тры варожыя крэйсеры. Падпалены і пашкоджаны "Вараг" вярнулі ў бухту і затапілі, каб ён не дастаўся ворагу. Больш як дзвесце членаў экіпажу былі інтэрніраваны англійскімі маракамі на свае караблі.



Па вяртанні на радзіму камандаванне флоту ўзнагародзіла маракоў легендарнага крэйсера срэбранымі Георгіеўскімі крыжамі, а афіцэраў — Ордэнам Ганны I ступені.

## Фэст

# Па горных сцежках — з дудой

**У вёсцы Мала Лехота і навакольных вёсках, што хаваюцца па лагчынах і ўзгорках славацкіх Татраў, прайшоў XXV фестываль традыцыйнай дударскай музыкі "Карнавал дудароў" (Gajdošskéfašiangy), які сабраў дудароў са Славакіі, Польшчы, Чэхіі і ўпершыню з Беларусі. Нашу краіну на фэсце прадстаўляў гурт "Раме" на чале з загадчыкам кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вячаславам Калацэем (дуда). У склад гурта таксама ўваходзяць яго студэнты Павел Ляшок (барабан), Маргарыта Касач (гуслі), Алесь Масібут (скрыпка) і аўтар гэтых радкоў Вячка Красулін (дуда). Музыкі прадставілі традыцыйны беларускі дударскі рэпертуар, а таксама спеўную традыцыю Цэнтральнай Беларусі і Усходняга Палесся, чым выклікалі бурныя авацыі і цёплыя водгукі ў наведвальнікаў і ўдзельнікаў фэсту.**

Вячка КРАСУЛІН

У першы дзень фестывалю прайшоў вялікі чатырохгадзінны канцэрт выканаўцаў на дудах. Бернард Гарай, дырэктар і нязменны арганізатар фэсту, папярэдзіў нас перад канцэртам: "Хлопцы, якія выйдуць напачатку, будуць надта вясёлыя. Не пужайцеся. Проста цяпер праходзіць карнавальнае свята, і яны зранку абыходзяць двары з песнямі і віншаваннямі". І сапраўды, як толькі гледачы (іх было значна больш, чым месцаў у зале) расселіся, пачуліся вясёлыя галасы тых хлопцаў — фаш'янгаў (удзельнікаў карнавала). Жыццярадасныя маладзёны паказалі інсцэніроўку абыходу двароў вёскі, якая вельмі нагадала мне беларускую традыцыю калядавання. Пасля хлопцаў выступілі найстарэйшыя выканаўцы на гайдзе — славацкай дудзе. Было вельмі цікава паслухаць традыцыйную дударскую музыку славакаў і пабачыць на ўласныя вочы прыёмы ігры, пачуць спевы пад яе акампанемент. Таксама на галоўным канцэрце фэсту выступілі майстры славацкіх гайдаў, якія віртуозна гралі на ўласна зробленых інструментах. Дзякуючы гэтым людзям сёння больш як 100 выканаўцаў захоўваюць традыцыйную манеру ігрaння, што адпавядае як музычнаму ладу мыслення, так і народнай культуры. Мы мелі магчымасць таксама пабачыць унікальныя экспедыцыйныя здымкі славацкіх дзядуль, якія без асаблівага напружання выдавалі складаныя мелодыі з пераменнымі рытмамі. Далей былі выступы музычных капэл, якія ўжываюць у музыцы гайды разам са смыковымі і ўдарнымі інструментамі, а таксама выступленні замежных гасцей са сваімі традыцыйнымі дудамі. Гурт "Раме" выканаў некалькі найгрышаў на дзве дуды ў суправаджэнні скрыпкі, гусляў і вясельнага барабана. Было бачна, з якой цікаўнасцю з-за куліс



пазіраюць на нас замежныя калегі, сярод якіх быў і маленькі хлопчык, пачынаючы выканаўца на гайдзе. Пасля выступу ён падыйшоў да нас, радасна ўсміхаючыся, і паказаў вялікі палец.

Пасля канцэрта музыкі накіраваліся ва ўтульны катэдж, што прымасціўся на адной з гор за некалькі кіламетраў ад вёскі. Але там замест чаканага адпачынку пачалася неафіцыйная частка канцэрта. Яшчэ б! Дзе ж гэта бачна, каб музыкі спакойна разышліся па нумарах і мірна пазасыналі пад цёплымі коўдрамі? Да 5 гадзін раніцы ўсе, хто меў дуды, гралі на іх народныя песні і мелодыі, ладзіліся супольныя танцы, спевы, у тым ліку і беларускія. Адзін са славацкіх дудароў быў настолькі ўражаны беларускім танцам "Какетка", што ў выніку доўга дзякаваў Маргарыце за тое, што выцягнула яго патанчыць, запісаў найгрыш на дыктафон і паабяцаў, што абавязкова яго развучыць.

Раніцай наступнага дня адбылося пасяджэнне Цэху — творчага аб'ядняння выканаўцаў на гайдзе, дзе прымалі новых удзельнікаў і таксама павышалі ў званні старых. Усяго існуе тры ступені — вучань, сябра і майстар. Праграма фестывалю працягнулася святочнымі канцэртамі ў вёсках павета, да якога адносіцца і Мала Лехота. Дудары былі падзелены на некалькі суполак, якія па чарзе наведвалі вёску за вёскай і віншавалі людзей з карнавальнымі святамі, падчас якіх адмыслова і ладзіцца дударскі фестываль. У першай вёсцы нас сустрэў аўтэнтычны спеўны гурт, яго ўдзельнікі сядзелі на возе, у які былі запрэжаны сапраўдныя коні-дрыганты. Мы выступілі перад жыхарамі вёскі, тыя ў падзяку пачаставалі нас традыцыйнай славацкай выпечкай і запрасілі далучыцца да сваіх музыкаў, якія ветліва махалі нам з воза. Так, з вёскі ў вёску, мы вандравалі разам з мясцовымі выканаўцамі, па чарзе выконвалі найгрышы да танцаў, спявалі і танчылі з наведвальнікамі свята.

Увечары адбыўся камерны канцэрт ва ўтульнай зале, што месціцца ў замкавым будынку мястэчка Велька Лехота. Выдатная жывая акустыка і прыемная публіка спрыяльна паўплывалі на якасць выканання і аддачу музыкаў, сярод якіх былі капэла Бернарда Гарая, чэшскі гурт *VladkaZogaty*, бацька Бернарда Гарая, майстры і выканаўцы на гайдах Любамір Татарка і Юрай Дзюфек, а таксама гурт "Раме".

У заключны дзень у касцёле вёскі Мала Лехота адбылася святочная імша, прысвечаная выканаўцам на дудах. Падчас набажэнства гурты з Беларусі і Чэхіі выканалі святочныя мелодыі, якія надалі імшы зусім іншую, свежую афарбоўку, ускалыхнулі розум і далі нагоду нарадзіцца новым думкам.

Больш за ўсё ўразілі ўзровень арганізацыі фэсту і колькасць наведвальнікаў канцэртаў, а падчас выступаў музыкаў людзі сапраўды радаваліся і весяліліся. Прыемна здзівіў мэр раёна, ён частаваў усіх глінтвейнам і суправаджаў музыкаў па дарозе з вёскі ў вёску. Паўсюль нас сустракалі гэтак ветліва і шчыра, як ніколі раней. Дзякуй, Мала Лехота і ўсе людзі, якія ладзяць гэты фестываль вось ужо 25 год!

***На здымку: гурт "Раме", а таксама майстар і музыка Драхош Далош.***

Пошукі і знаходкі

# Край жоўтых гарлачыкаў

**Нядаўна інструктар па турызме Лепельскага фізкультурна-аздараўленчага комплексу Вольга Маханенка атрымала дыплом “Чалавек года Віцебшчыны-2011” у намінацыі “Фізічная культура, спорт і турызм”.**

**Уладзімір МІХНО,**
**фота аўтара**

На сваёй дачы ў Старым Лепелі Вольга Маханенка рэдка бывае адна, хоць і вельмі любіць тутэйшую вясковую адзіноту. Іншы раз з мужам Валодзем, які сваімі рукамі шмат чаго зрабіў, надаўшы звычайнай хаце экзатычны і экстравагантны выгляд. Бывае, збіраюцца ўсёй сям’ёю. Хаця сабраць цяпер разам усіх Маханенкаў даволі праблематычна. Дзеці, Лёшка і Святлана, ужо дарослыя і маюць свае сем’і. А найчасцей завітвае на дачу Вольга. З гасцямі, якіх не ведае — прафесія ў яе такая: клікаць людзей у госці.

Дык хто ж па прафесіі Вольга Маханенка? Як аказалася, рэжысёр. Аддала гэтаму некалькі дзясяткаў гадоў, стварыўшы ў Цэнтры дзіцячай творчасці падлеткавы тэатральны калектыў “Трыяда”, які за гады свайго існавання дабіўся значных поспехаў і стаў узорным. Але ж не любіць жанчына застаялага жыцця. Калі, здавалася, калектыў яе быў у самым зеніце славы, жанчына павярнула ўласнае жыццё на сто восемдзесят градусаў, а разам з ім і жыццё ўсёй сваёй сям’і. Вольга вырашыла заняцца… аграэкатурызмам.

Даўно ведаю Вольгу, яе рашучасць, бескампраміснасць, ярка выражаныя рысы лідара і надзвычайную мэтанакіраванасць, з якой яна прыступае да кожнай новай справы. І ўсё ж, прызнацца, на пачатку яе творчага бізнесу мне слаба верылася ў поспех. Вельмі ж ужо рызыкоўна яна пачынала, амаль на пустым месцы. Памятаю яе першыя стасункі з тымі, хто штосьці ўжо рабіў на ніве агратурызму. Вольга вучылася ў сваіх бізнес-настаўнікаў, імгненна ўбірала ў сябе ўсё з незнаёмай галіны, што на яе погляд было варта пераймання, і хутка прафесійна расла. Урэшце дзесьці нават пераўзышла настаўнікаў. Перад ёю адкрываліся новыя гарызонты. Замежныя стажыроўкі, шматлікія паездкі дзеля абмену вопытам, наладжвання трывалых сувязей з краінамі, дзе агратурызм даўно заняў сваю нішу ў культурным жыцці.

Вольга Маханенка паставіла мэтаю зрабіць родную Лепельшчыну не проста раёнам з развітой інфраструктурай аграэкатурызму. У яе агратурызму свае адметнасці: аўтэнтычны фальклор, нацыянальны каларыт, адметная архітэктура, слаўная гісторыя краю, непаўторная прырода. Усё гэта яна вырашыла сабраць у адно цэлае, каб прапанаваць гасцям. Хіба нам няма чым пахваліцца?



І другое. Захапіўшыся агратурызмам, Вольга Маханенка мела намер узрушыць, абудзіць мясцовы люд. Пачалася руцінная падрыхтоўка перад рашучым наступам. У раёне была створана сетка з дванаццаці аграсядзіб, адной з якіх стала ўласная дача Вольгі, куды прыязджае цяпер шмат людзей: турысты, каб адпачыць, калегі па бізнесе, каб пераняць вопыт, правесці творчы практыкум. Дача стылізавана пад пастаялы двор, дзе ёсць усё для адпачынку па-вясковаму: лазня, печка з ляжанкай, студня, альтанка, пуня з сенам, прадметы сялянскага побыту і народнай творчасці.

Калі вы прыехалі, каб пасцябацца ў лазеньцы бярозавым ці дубовым венічкам, выцерціся льняным вышываным ручнічком, паслухаць у альтанцы спевы птушак, папіць зёлкавай гарбаты, патанчыць польку ці кракавяк, соладка заснуць на духмяным сене, а прачнуўшыся, пакупацца ў возеры, пра якое ходзяць легенды, — значыць, вы трапілі па адрасе. Кіруйцеся ў Стары Лепель. І гэта толькі адзін са шматлікіх прыстанкаў турыстаў у нашым раёне.

Вольга змяніла профіль сваёй працы, але ж немагчыма здрадзіць прафесіі, прызванню. Так і засталася яна рэжысёрам. І перш чым прад’явіць людзям сваю новую творчую задуму, старанна адрэжысіравала ўвесь сцэнарый. Бо яна не хоча і не ўмее выходзіць да людзей з пустой ці недапрацаванай ідэяй. Прыцягнула да супрацоўніцтва такіх жа апантаных людзей: Віктара Труфанава, Галіну Жураўлёву, Валерыя Тухту, Васіля Шкіндзера, Аляксея Часнакова і інш. Кожны з іх — самастойная творчая асоба, а разам — моцны калектыў.

Быў дэталёва распрацаваны план з красамоўнай назвай “Край жоўтых гарлачыкаў і сівых валуноў”, які стаў адным з першых агратурыстычных зялёных маршрутаў у Беларусі і затым увайшоў у сетку еўрапейскіх зялёных маршрутаў. Яго стваральнікі паклапаціліся пра тое, каб звесткі пра маршрут стала прапісаліся ў інтэрнэце. Сёння гэтая інфармацыя змешчана на сайтах міжнароднай турыстычнай арганізацыі “ECEAT” у дваццаці дзвюх краінах свету, а таксама занесена ў турыстычную энцыклапедыю Беларусі. 155 кіламетраў цікавага і непаўторнага падарожжа па Лепельшчыне зрабілі гэты край знакамітым не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Стары Лепель, Лепель, Окана, Барсукі, Латыголіцкі і Красналуцкі напрамак, Валосавічы… І ў кожным яго пункце, на кожным супынку — свая прынада: ці гэта гняздоўе шэрай чаплі побач з чалавечым жытлом, ці раздвоеная да карэнняў сасна — дрэва шчасця ў Окане, ці стары бровар ля Таронкавіч, ці дуб-волат у тры абхваты ў Тадуліне, ці ўрочышча Добрая Вада, ці скоп’е сівых валуноў за Валосавічамі, ці прыватная калекцыя старых прадметаў побыту на сядзібе ў Вялікім Поўсвіжы. На лепельскім зялёным маршруце пабывалі беларускія і замежныя эксперты з Польшчы, Германіі, Нідэрландаў, Швецыі, Ізраіля і высока ацанілі перспектывы развіцця аграэкатурызму ў раёне.

Распачалася цяжкая і самаадданая праца па стварэнні агратурыстычнага комплексу “Люкжына” на ўзбярэжжы аднайменнага возера. Памятаю, як пачыналі, як збіралася каманда энтузіястаў-аднадумцаў на своеасаблівыя суботнікі і нядзельнікі, уручную замешвалі раствор, клалі першыя камяні ў падмурак будучага збудавання, якое, верылі, па часе стане цэнтрам прапаганды беларускай культуры, традыцыйнага гаспадарання, дойлідства і ладу жыцця. Гучна і амбіцыйна? Своеасаблівыя “Дудуткі” ў лепельскім варыянце. Але ж галоўнае — верыць.

Праўда, яшчэ недабудаваны будучы цэнтр. Ён, як зазначае сама Вольга, — для наступных пакаленняў. Але ёсць чым пахваліцца і цяпер. Прыцягнуты да працы шматлікія самадзейныя калектывы. Адроджана на Лепельшчыне аўтэнтычная абрадавая гульня “Жаніцьба Цярэшкі”, якая стала нацыянальнай каштоўнасцю Беларусі.

Гэтым разам Вольга вярнулася з Галандыі, дзе праходзіла стажыроўку ў межах трохбаковага еўрапейскага праекта “Вада, прырода і людзі ў знікаючым ландшафце — развіццё аграэкатурызму ў Расіі і Беларусі”. Пабачыла галандскія фермы па вытворчасці экалагічна чыстай прадукцыі, спецыфічныя мясцовыя “цёплыя агароды”. Завязаліся новыя стасункі з патэнцыйнымі інвестарамі, якія ўжо ведаюць Лепельшчыну і згодныя ўкладваць сюды свае сродкі. Пабачыла Вольга заморскія цуды і падумала: “Усё гэта вельмі добра, толькі ж і мы нічым не горшыя. Сёння нас ведаюць у Еўропе, мы з’яўляемся членамі міжнароднай арганізацыі “ECEAT”. Заўтра нас будуць ведаць і на іншых прасторах”. І гэтае мэты Вольга абавязкова дасягне, бо яшчэ не было такой вяршыні, якая б ёй не скарылася.

***На здымку: Вольга Маханенка на аграсядзібе.***

Да ведама

## Цікава і аб’ектыўна

**Раіса МАРЧУК**

Да заканчэння ўзвядзення новага будынка Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны засталося крыху больш як год. Паралельна з будаўнічымі работамі завяршаецца чарговы этап навуковага праектавання экспазіцыі.

На разгляд шырокай грамадскасці праз сродкі масавай інфармацыі, інтэрнэт і розныя канферэнцыі былі вынесены Канцэпцыя экспазіцыі музея і пашыраная тэматычная структура. Гэтыя распрацоўкі змаглі ацаніць вучоныя і музеязнаўцы не толькі нашай краіны, але і Расіі, Германіі, Славакіі, Украіны, а таксама члены Вучонага савета музея. Усе водгукі і крытычныя заўвагі ўважліва разгледжаны і прааналізаваны.

Рабочыя групы па стварэнні экспазіцыі працягваюць цесна кантактаваць з вучонымі, якія кансультуюць музейшчыкаў па праектаванні кожнай з залаў. Безумоўна, супрацоўнікі музея імкнуцца зрабіць усё магчымае, каб будучая экспазіцыя атрымалася сучаснай, аб’ектыўнай і цікавай для наведвальнікаў.

Падчас нядаўняй Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі “Праблемы экспазіцыйнага праектавання новай экспазіцыі” яе ўдзельнікам была прадстаўлена адна з самых складаных тэм — “Абарончыя баі ў Беларусі. Смаленскае змаганне. Бітва пад Масквою. 1941 — 1942 гг.”. Прысутныя абмяркавалі канцэпцыю гэтай залы, тэматыка-экспазіцыйны план, інсталяцыі, дыярамы і іншыя актуальныя пытанні. Такім чынам распрацоўшчыкі будучай экспазіцыі змогуць улічыць меркаванні ўдзельнікаў канферэнцыі — як беларускіх спецыялістаў, так і прадстаўнікоў Расіі, Германіі і Польшчы.

Энтузіясты

## Слова пра калегу

**Кліменцій КОЖАН**

Былая настаўніца рускай мовы і літаратуры Ада Райчонак — выдатны арганізатар музейнай справы. У вёсцы Германавічы Шаркаўшчынскага раёна яна стварыла ажно тры музеі: гісторыка-краязнаўчы пры Германавіцкай сярэдняй школе, Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча (дзяржаўная ўстанова) і ў сваім доме прыватны літаратурна-мастацкі музей.

У вёсцы Малыя Алашкі дзякуючы намаганням гэтай незвычайнай жанчыны працуе музей-сядзіба Івана Сікоры, вядомага ў Беларусі садавода.

Штогод Ада Эльеўна праводзіць на тэрыторыі Шаркаўшчынскага ці суседніх раёнаў мастацкі пленэр “Шляхамі Язэпа Драздовіча”.

У апошні час жанчына шмат зрабіла для таго, каб імя выдатнай дачкі беларускага народа, гераіні паўстання 1831 года Эміліі Плятэр стала вядома кожнаму. Маці Эміліі, Ганна Моль, паходзіла з Браслава, таму летам 2010 года мастацкі пленэр праводзіўся на Браслаўшчыне. Пазнаёміцца з карцінамі, напісанымі ў Слабодцы, Дрысвятах, Друі і іншых мясцінах азёрнага краю, маглі не толькі жыхары Браслава, але і Полацка, Віцебска, Мінска.

У прыватным літаратурна-мастацкім музеі Ада Эльеўна адвяла пакой для Эміліі Плятэр, дзе будуць змешчаны ўсе сабраныя пра яе матэрыялы. А ў чэрвені жанчына плануе правесці ў Германавічах навукова-краязнаўчую канферэнцыю, прысвечаную беларускай Жанне д’Арк.

Традыцыі

## Удыхнуць новае жыццё

**Міра ІЎКОВІЧ**

Дзесяць народных абрадаў плануюць правесці ў Полацкім раёне на працягу гэтага года. Мэта новага праекта — узнавіць самабытныя звычаі палачан, што ўжо пачалі забывацца. Члены аматарскіх самадзейных калектываў, якіх тут нямала, па крупіцах збіраюць і адраджаюць традыцыі народных гулянняў, захоўваюць легенды і павер’і, звязаныя з тымі ці іншымі святамі і звычаямі.

Сёлета аматарскія калектывы прапанавалі правесці ў вёсках раёна дзесяць майстар-класаў па абрадах і тым самым удыхнуць у іх новае жыццё. Тут спадзяюцца, што старадаўнія традыцыі спадабаюцца мясцовым жыхарам і зацікавяць турыстаў. Можна будзе ўбачыць, як гулялі даўней “Вяселле”, праводзілі “Хрэсьбіны” і інш. На “Юр’е”, у найлепшы дзень для першага выпасу кароў, у адной з полацкіх гаспадарак згодна са старадаўнімі павер’ямі будуць выводзіць на луг жывёлу. Яшчэ збіраюцца паказаць, як у мінулыя часы пяклі чорны хлеб і варылі сыр, здымалі яблыкі на Яблычны Спас, а на Мядовы — загаворвалі пчол.

# Паэзія



Уладзімір Скарынкін

## Пяць санетаў для Валянціны

***(Да нашага залатога вяселля)***

* * *

*Калі сустрэліся з табой,*
*Твой крок быў пругкі і крылаты.*
*Сама ж, бязгрэшная, была ты*
*Багіняй з аўрай залатой.*

*Ды шлях жыццёвы твой і мой,*
*Як ні шкада, але багаты*
*На беды і цяжкія страты —*
*І ты ўжо зззяеш сівізной.*

*Ды застаешся, як раней,*
*Такою ж светлаю і чыстай —*
*І яркі бляск тваіх вачэй*

*Не гасне ў цемрадзі імжыстай,*
*Бо мне мілей і даражэй*
*Ты стала з аўрай серабрыстай.*

* * *

*Цябе, як Мону Лізу, птах дзюбаты*
*Пятнаццатага чэрвеня прынёс*
*У гэты свет і вызначыў твой лёс*
*Уздзеяннем магічным гэтай даты.*

*Як Мона Ліза, вабнаю была ты*
*Для мастакоў — шукальнікаў дзівос,*
*Бо ты, здавалася, сышла з нябёс*
*У гэты свет, на святасць не багаты.*

*Ты ўвасабленне ўсіх маіх надзей.*
*Цябе я ўславіў не адным радком.*
*І каб я нарадзіўся мастаком,*

*Тады б намаляваў, як да грудзей*
*Пяшчотна прытуляла ты дзяцей,*
*Іх кормячы салодкім малаком.*

* * *

*Тваё аблічча вартае ікон, ды*
*Іконаю ты не жадаеш быць,*
*Бо ўмееш захапляцца і любіць*
*І ўслед за марай гнацца наўздагон ты.*

*Партрэт твой карандашны*
*мог бы фонды*
*Мастацкага музея ўзбагаціць.*
*З яго красуня юная глядзіць*
*З загадкавай усмешкаю Джаконды.*

*Твая душа за хмарамі лятае.*
*Яе з маленства вабіць вышыня.*
*Ты побач — і ў маёй душы світае,*

*Нібыта ў пушчы напачатку дня.*
*Каханая! Ты грэшніца святая.*
*І на цябе штодня малюся я.*

* * *

*Такой зямной, высакароднай,*
*Такой залежнай і свабоднай,*
*Такой упартай і лагоднай*
*Няма жанчыны больш ніводнай.*

*Ты з лёгкасцю неверагоднай*
*Уторыш песні карагоднай*
*І ў простай куртачцы паходнай*
*Усім здаешся самай моднай.*

*Ты летам і зімой халоднай,*
*Парой цяжкой і безвыходнай*
*Мне зззяеш зоркай пуцяводнай,*

*Для ўзлётаў смелых неабходнай,*
*І з дабрынёй сваёй нязводнай*
*Здаешся ўсім сястрою роднай.*

* * *

*Мы хрэснікі вайны,*
*што адгрымела*
*Салютам пераможным, і гадоў,*
*Калі, да слёз расчульваючы ўдоў,*
*Пра хустку сінюю*
*Шульжэнка пела.*

*Ды не астыла, не адпалымнела*
*Дагэтуль наша маладая кроў.*
*Ты кінешся абараняць сяброў,*
*Як Лёлька з фільма*
*"Дабравольцы", смела.*

*А каб на нашым лецішчы зімою*
*Табе было не холадна са мною,*
*Я, целагрэйку скінуўшы, гатовы*

*Марознай раніцаю секчы дровы*
*Так, як іх сек любімы твой артыст*
*Яўген Урбанскі*
*ў фільме "Камуніст".*



Фота Яўгена Шастакова



Таццяна Выскварка

* * *

*Мне б дажыць да тваіх вачэй,*
*Мне б дажыць*
*да тваёй самоты.*
*Хутка ростань, ды я хутчэй*
*Дажыву ад усіх употай.*

*Мне б дажыць да тваёй рукі,*
*Мне б дажыць да яе палону.*
*Можа, сонцу свяціць вякі —*
*Мне хвіліна адна да скону,*

*Каб табе усё расказаць*
*На пажарышчах ад адчаю…*
*Вочы выцвітуць і згараць.*
*Я жыву — да тваіх дажываю…*

* * *

*Я каторую ноч з табой!..*
*У расстанні-бяссонні бачу,*
*Што й такою святой журбой*
*Я з табою, з табой — няйначай…*
*…Не прыходзіш у сны мае,*
*Не падманеш адчай употай…*
*…Як вачам цябе нестае!*
*Як тваёй нестае самоты!..*

* * *

*У сваёй адзінокай журбе*
*Я спрадвеку сябе дакараю.*
*Ты прабач, мілы мой: для цябе*
*Я не выйшла ні станам,*
*ні тварам…*
*Я ў сваёй адзінокай журбе.*

*У палёце няспраўджаных сноў*
*Прашапчу, пракрычу, праспяваю*
*Не аднойчы, а зноўку, наноў:*
*"Я табою адным выжываю*
*У палёце няспраўджаных сноў..."*

*Ты пачуй, дабяжы, суцііш...*
*Мае вочы гарацъ мальбою.*
*Як убачыш іх — закрычыш…*
*Іх туга закрычыць з табою…*
*Ты пачуй, дабяжы, суцііш…*

*У сваёй адзінокай журбе*
*Не заўважу, што ўжо світае.*
*Гэта дзень абдымае цябе.*
*…Я ўсё тая ж, мой мілы, тая!..*
*Я ў сваёй адзінокай журбе…*

* * *

*Калі наклiча жаль сустрэча,*
*Агорклым болем скалыхне,*
*Не бойся за маю галечу,*
*Мой мілы,*
*не шкадуй мяне.*

*Сарвецца слова*
*з любых вуснаў —*
*І я скаруся, адыду.*
*…Мне твой наказ святы,*
*нязрушны!..*
*Мяне адгоніш, як бяду.*

*І сэрцам ціха разарваным*
*Табе прамоўлю з нематы:*
*"Ты дзесь жывеш,*
*мой зачаканы…*
*І я жыву, пакуль ёсць ты".*

* * *

*Да забыцця цябе чакаць*
*Душой выродліва-старэчай.*
*І рукі здрадзяць —*
*задрыжаць,*
*Бяссільныя прад*
*несустрэчай.*

*Спагадна лісце зашуміць,*
*Каб мне спыніцца*
*між прастораў.*
*Падпаленае, дагарыць,*
*Каб навучыць*
*мяне пакоры —*

*Цябе чакаць і берагчы*
*У чысціні сваё чаканне,*
*І сполашна згарэць ўначы,*
*І зноўку падпаліцца ўранні…*



Людка Сільнова

## Сыходзіць мір

*...Тады зрываецца малітва*
*З сасмяглых вуснаў, і ў душу*
*Сыходзіць мір... Псалтыр адкрыты.*
*Чытаю, думаю, пішу.*

## Мой садзе ясны

*Уранні чысты сняжок цярусіць...*
*Якая спакуса, нядобры цуд*
*Маё суладдзе ў душы — парушыць,*
*Аберне Сад у пянькі і хлуд?*

*Мой садзе ясны, мой садзе юны,*
*Стаіш, адкрыты — усім вятрам...*
*Далёка — ліха, натоўп, трыбуны.*
*Дарогай ціхай іду я ў храм.*

## Музыка

*З нябёсаў музыка гучала,*
*Дажджом лілася на зямлю —*
*І ўся прырода паўтарала*
*Святое Боскае "люблю":*

*У кожным камені, расліне,*
*У хоры птушак і звяроў,*
*У песні сельскае хаціны*
*І паланэзе гарадоў...*

*І перамогу, і паразу*
*Прымі, змірыўшыся, — і ў Сад*
*Увойдзеш пад чароўнай назвай:*
*Там — музыка, любоў і лад.*

## Палімпсест

*Усе скачуць і смяюцца,*
*А мне сумна, хоць ты плач...*
*Чаркі ссоўваюцца, п'юцца,*
*Б'юцца — у каторы раз.*

*Дык і што, што Новы год!*
*Ён звычайны, ён штогод!*
*Ён — напластаванне святаў,*
*Дзён нязвыклых карагод.*

*І — на прафесійнасць тэст:*
*Даўні скрутак, палімпсест...*

## Кававыя экспромты

**1**
*Снядання звабны час лаўлю.*
*Шчырую з кавай, бо — люблю.*
*Яна — мой "госць у студыі",*
*Астатняе — забуду я.*

**2**
*Што любіць Кава, пані Кава?*
*Салодкі фінік, сыр гаркавы,*
*Маленькі пернік, круасан,*
*Вільготны апельсін, банан.*

*Што пані Кава любіць болей?*
*Хлеб чорны, масла, драбок солі.*
*Спазнала й гэта я... І — веру!*
*(Знайшла нядаўна і ў Каэльа.)*

**3**
*Ад пенкі кававай — карункі*
*Па сценках кубка... Як малюнкі*
*Кахання, цёплае прасторы*
*І неба, дзе пануюць горы!*

**4**
*Вось за ўсё гэта я люблю*
*Сяброўку мілую маю.*
*Яна — ускіне броўкі:*
*Старая для "сяброўкі"!*

*Бабуля мне і маці.*
*З ёй не замерзну ў хаце!*

*У вечную пасцелю*
*Няхай хто кіне жменю*
*Зямлі — а можа, кавы,*
*З карэньчыкам каравым...*

*Паралелі*

# Катарына Раабэ:
# «Мы робім не кнігі, мы ствараем аўтараў»

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Ігара Куксіна

**Адным з гасцей XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу стала Катарына Раабэ — кіраўнік лініі ўсходнееўрапейскай літаратуры ў нямецкім выдавецтве "Зуркамп", што спецыялізуецца на выпуску мастацкай літаратуры. Натуральна, там ужо выходзілі кнігі ў перакладзе з беларускай мовы. Чаму мала беларускіх твораў перакладаецца на нямецкую мову? Як сябе паводзіць аўтару на нямецкім рынку? Якія тэмы, жанры, стылі цікавыя нямецкаму чытачу? На гэтыя і многія іншыя пытанні спадарыня Катарына адказала падчас "круглага стала", што прайшоў у Інстытуце імя Гётэ ў Мінску.**

## Адметнасці рынку

— Нямецкі кніжны рынак вельмі дакладна раздзелены на сегменты. Большая яго частка належыць перакладам з англійскай мовы, найменшая — так званым малым літаратурам. Выдавецтва "Зуркамп" існуе ўжо 60 год, яно вядомае перш за ўсё дзякуючы высокай якасці літаратуры, што выходзіць тут. Ядро прадукцыі складае нямецкамоўная літаратура, але ёсць і вельмі вялікі аддзел, што займаецца літаратурамі Лацінскай Амерыкі. На працягу многіх гадоў мы спрабуем выдаваць і пераклады з рускай, польскай моў. Зыходным пунктам для выдання перакладных кніг стала руская паэзія пачатку XX ст. (і таму сёння кнігі мы параўноўваем па такім жа высокім стандарце), гэта адбылося ў 1990-я гады, што былі асабліва добрым часам для адкрыцця ўсходнееўрапейскай літаратуры, кніжных абсягаў, створаных у розных краінах — ад Польшчы да Латвіі, ад Расіі да Славеніі. Змены, што адбываліся тут, выклікалі вялікі інтарэс, і трэба было адкрыць гэтыя краіны наноў.

Аднак цягам апошніх 15 год цікавасць паступова памяншалася. І мы ў выдавецтве думалі пра тое, як яе можна зноў абудзіць. Нам пашчасціла з адным перакладам кнігі Анджэя Стасюка, дзякуючы яму ў 2000 годзе прачнуўся інтарэс да Паўднёвай Польшчы, Галіцыі. Тады з'явілася ідэя: варта было б выдаваць кнігі, якія людзі могуць узяць з сабой, калі выпраўляюцца ў падарожжа. Але з гэтага нічога не атрымалася. Нечакана нам зноў пашчасціла. З'явіўся яшчэ адзін польскі аўтар, Юры Андруховіч, і яны разам са Стасюком напісалі кнігу эсэ "Мая Еўропа", што пабачыла свет у 2004 годзе, якраз калі адбывалася пашырэнне Еўрапейскага Саюза. Гэта падзейнічала! Кніга стала надзвычай папулярнай, асабліва пасля таго, як Юры Андруховіч сам наведаў Германію і прэзентаваў выданне.

Тады з'явілася яшчэ адна ідэя: можна было б паглыбіць новы інтарэс і скласці літаратурную анталогію невядомай Еўропы. Мы яе падрыхтавалі, і калі праца ўжо была завершана, заўважылі: не хапае адной краіны. Гэта была Беларусь.

## Белыя плямы на літаратурнай карце

— І што тычыцца Беларусі, то можна сказаць, што гэтая пісьменніцкая краіна для нас пакуль не адкрытая, напэўна, таму што не хапае кваліфікаваных перакладчыкаў з беларускай на нямецкую мову. Напрыклад, поспех Вальжыны Морт меў некалькі прычын. Яна была вядомая, бо выступала на многіх фестывалях. І калі мы рыхтавалі яе кнігу, адразу ведалі, якім крытыкам павінны паказаць выданне, і кожны з іх нешта напісаў. Справа ў тым, што мы можам выдаваць толькі тую кнігу, пра якую дакладна ведаем: *што* я магу сказаць гандляру і крытыкам, *чаму* яны павінны яе прачытаць. І пры гэтым павінны памятаць, што не толькі выдаём кнігу, але і дапамагаем аўтару існаваць на глебе чужой літаратуры. Мы робім не кнігі, мы ствараем аўтараў.



Справа ў тым, што сёння няма магчымасці для аўтараў, выдаўцоў, агентаў, перакладчыкаў інфармаваць адно аднаго пра тое, якія кнігі выходзяць. Хіба толькі праз наведванне спецыяльных форумаў. Але праца не спыняецца ў гэтым кірунку. З 2000 года мы выпусцілі 130 найменняў кніг-перакладаў з сербскай, польскай, рускай, беларускай моў. Але мы адзінае досыць вялікае выдавецтва ў нямецкамоўным свеце, якое сабе можа дазволіць падобную праграму. Усе астатнія робяць гэта толькі час ад часу. Але ніводнае выдавецтва не можа сабе дазволіць пастаянна займацца пісьменніцкім ландшафтам у краінах Усходняй Еўропы і збіраць інфармацыю пра аўтараў. Мы спрабавалі рабіць гэта даволі сістэматычна з дапамогай нашых партнёраў. Самыя важныя з іх — самі пісьменнікі і перакладчыкі, бо без іх немагчымая была б праца. Таксама нашым партнёрам з'яўляецца Германская акадэмічная служба абмену (DAAD) і Фонд імя Роберта Боша, якія дапамагаюць у правядзенні перакладчыцкіх мерапрыемстваў.

## Як пісаць, каб цябе чыталі ў Германіі?

— Для нас не з'яўляецца важнай нацыянальнасць аўтара, мова, на якой ён піша. Галоўнае, каб мы прачыталі твор і адчулі: вось гэта кніга! Гэта абавязкова трэба выдаць, гэта ні да чаго не падобны голас. Аўтар ні ў якім разе не павінен арыентавацца на замежнага чытача, трэба пісаць, як пішацца. Гэта значыць, што кніга можа быць напісана вельмі своеасаблівa, а не створана з агляднай на густ масавага чытача. Мы чытаем добрую літаратуру, няважна, паэзія гэта ці проза, кароткія апавяданні ці раман.

Калі разглядаць залежнасць папулярнасці кнігі ад яе жанру, то магу адзначыць, што лепш за ўсё прадаецца раман. Яго хочуць атрымаць і выдавецтвы, і чытачы. Паэзія выдаецца даволі малымі тыражамі, і яе купляюць намнога горш. Даволі цяжка прадаецца кароткая проза, хоць і з гэтага правіла ёсць выключэнні — аўтары, якім удалося дасягнуць вялікіх аб'ёмаў продажаў, ад 1 да 150 тысяч асобнікаў. Вось, да прыкладу, літаратурныя эсэ Юрыя Андруховіча пра Галіцыю, Кіеў, Чарнобыль настолькі зацікавілі публіку, што яны адчынілі дзверы іншым творам з гэтага рэгіёна. Мы адкрылі чытачам вочы і дазволілі ім убачыць нешта, чаго яны раней не заўважалі. Калі ў нас ёсць такія аўтары, мы можам іх выдаваць. А тады ўжо думаем, якім чынам гэта зрабіць: дзе знайсці перакладчыкаў, кваліфікаваных рэдактараў, якім чынам прадставіць кнігу, каб яна не згубілася.

Перакладчыкі і агенты, што з'яўляюцца пасрэднікамі, вельмі важныя. Гэтыя людзі ведаюць, якія кнігі чытаць, дзе іх шукаць. Аднак дрэнна, калі рэцэнзент, да якога звяртаемся па параду, ведае толькі літаратуру на сваёй мове. Існуюць літаратурныя агенты, да прыкладу, Томас Вайлер, якія ведаюць два бакі справы — і нямецкі кніжны рынак, і беларускую літаратуру. Спрабуем стварыць сетку з такіх рэцэнзентаў, ім мы верым. Паслухаемся, калі тры рэцэнзенты параяць адзін і той жа твор. Потым даём заданне зрабіць пробны пераклад, вывучаем пераклады гэтай кнігі на іншыя мовы (так кампенсуем немагчымасць чытання ў арыгінале).

Што да паэзіі, тут усё нашмат прасцей. Існуюць розныя нефармальныя аб'яднанні і ўзаемныя пераклады, выступленні аўтараў падчас фестываляў. Фестывалі і да гэтага часу — самы ўдалы спосаб пазнаёміцца з беларускімі аўтарамі.

## Агент: вораг ці сябар?

— Для Германіі літаратурныя агенты — досыць новая з'ява. Яшчэ дваццаць год таму мы з імі працавалі толькі калі выдавалі пераклады з англійскай мовы. У апошнія гады многія польскія выдавецтвы самі працуюць як агенты, прапануючы кнігі для перакладу і выдання. Мы ў сваю чаргу таксама робім такую паслугу аўтарам, прадаём ліцэнзіі на іх творы ў іншыя выдавецтвы, краіны. Можна сказаць, што агенты дапамагаюць працэсу выдання літаратуры. Але пры гэтым ствараюць нейкі комплекс паслуг, што для аўтара часам можа мець негатыўныя наступствы, ён не абавязкова атрымае выдавецтва, што прапануе яму найлепшыя ўмовы. Для нас прапанова агенцтва, 4-5 назваў кніг з сінопсісамі, прадстаўленне аўтара — першы крок. Кіруючыся толькі гэтымі парадамі, мы не можам выдаваць кнігу, таму пасля зробім яшчэ некаторыя крокі. Аднак праца з агентамі не выключае нашага пошуку аўтараў, і я сама лічу за лепшае звяртацца наўпрост да аўтара.

*У падтрымку чытання*



**Дырэктар, галоўны рэдактар выдавецтва "Пачатковая школа" Наталля Ваніна:**

# Высокая планка класікі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

— Любоў да кнігі і чытання выхавала ў нас траіх (у мяне двое братоў) маці. Яна была настаўніцай матэматыкі, але вельмі любіла мастацкую літаратуру, вершы. Дзякуючы яе клопатам мы ўсе добра вучыліся і шмат чыталі. Маці не прымушала нас чытаць, проста ў сям'і існаваў культ кнігі і ведаў, і мы натуральна ўспрымалі гэты стыль жыцця.

У той пасляваенны час у побытавым плане жыццё было значна цяжэйшым, іншы раз, памятаю, бацькам не хапала грошай да зарплаты, але кнігі набываліся, няхай і на апошнія сродкі. Я нават не памятаю, калі ўпершыню пачула радкі Пушкіна, Лермантава, Ясеніна, Маякоўскага, Сіманава. Здаецца, чула іх ці не ад самага нараджэння.

Але найвялікшае ўражанне ў школьныя гады пакінуў раман Л. Талстога "Война и мир". Відаць, як і многія дзяўчаты, я шукала кнігі пра ўзаемаадносіны людзей, псіхалагічныя праблемы, каханне, сяброўства. І раман Талстога аказаўся ў гэтым плане сапраўднай энцыклапедыяй. Таксама, дарэчы, як і іншыя творы генія рускай літаратуры. Крыху пазней такое ж моцнае ўражанне ўзнікла пасля знаёмства з "Новай зямлёй" Якуба Коласа, з творчасцю Янкі Купалы, Караткевіча, Быкава. У гады вучобы ва ўніверсітэце шмат чытала замежных аўтараў. Сярод любімых засталіся Хэмінгуэй, Рэмарк, Гюго, Бальзак, многія іншыя.

Майму пакаленню яшчэ пашанцавала: тэлевізар, напрыклад, у нашым доме з'явіўся толькі ў 1976 годзе, калі я вучылася ўжо ў 10-м класе. Зразумела, што мы шмат чыталі, гулялі ў шахматы, шашкі, розныя іншыя гульні. Сёння мае ўнукі пачынаючы з трох гадоў лёгка ўключаюць камп'ютар, тэлевізар, гульнявыя прыстаўкі, іншую тэхніку, сядзяць у інтэрнэце. І кніга іншы раз, хочам мы таго ці не, адыходзіць на другі план. Але, я ўпэўнена, яна заўсёды застанецца ў жыцці чалавека лепшым сябрам і дарадцай. І тут усё залежыць ад сям'і, ад таго духу, які пануе ў доме, ад жыццёвых прыярытэтаў бацькоў.

# На фантастычных хвалях

**Беларусь славіцца не толькі сваім прафесійным мастацтвам, але і мастацкімі дынастыямі, пра якія можна напісаць не адну кнігу. Так атрымоўваецца, што дзеці, а затым і ўнукі вядомых мастакоў бяруцца з маленства за аловак і множаць творчыя здабыткі сваіх дзядоў і бацькоў. Часам узнікаюць сямейныя дуэты, у якіх творцы працуюць поплеч у адной майстэрні над рознымі задумамі. Працуюць у адным, а бывае — і ў супрацьлеглым стылі. А ёсць у нас і ўнікальная творчая суполка маці і сына — вядомай мастацтвазнаўцы і мастачкі Людмілы Налівайкі ды супрацоўніка Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Дзмітрыя Шаракапытава.**

**Яўген ШУНЕЙКА, прафесар, фота Віктара Кавалёва**

Пяцьдзясят гадоў таму Людміла Налівайка скончыла мастацка-графічнае аддзяленне Віцебскага педагагічнага інстытута. У 1979-м у яе нарадзіўся доўгачаканы сын Дзіма. Не без уплыву маці пачаў маляваць тое, што зыходзіла з першых уражанняў, што захапляла ў рэальным і падвядомым свеце. На шчасце, гэтая звычка яго не пакідае і сёння, калі ён актыўна займаецца камп'ютарнай тэхнікай



і выдавецкімі справамі, малюе, настроіўшыся на хвалю дзіцячай фантазіі. Людміла Дзмітрыеўна ставіцца да гэтага рамантычна-практычна: бярэ за аснову непасрэдныя сынавы накіды, дадае сваё вобразна-кампазіцыйнае бачанне і хутка пераводзіць у адмысловую аўтарскую тэхніку малявання на шкле. Можна сказаць, што там, дзе Людміла і Дзмітрый крочаць па мінскіх вуліцах, ужо не застанецца пад нагамі і квадрацікa пакінутага шкла. Усё ідзе ў творчую лабараторыю: там, у іх кватэры ў мікрараёне Шабаны, нараджаюцца свежыя, арыгінальныя, шматзначныя кампазіцыі, а вобразнае вырашэнне падказвае і назву, якая ставіць кропку ў чарговай неўтаймаванай імправізацыі.

Сярод іх малюнкаў на шкле — "Нёман", "Паміж крутымі берагамі", "Начное павуцінне", "Бот у лужыне", "Закуліссе", "Сонечны дмухавец". Адносна невялікія памеры дазваляюць выконваць вобразныя кампазіцыі на адным дыханні, ашчаднымі і выразнымі сродкамі: колер, лінія, таніроўка, розныя клеклюры, якія надзвычай маляўніча ўспрымаюцца на паверхні шкла, не могуць не вылікаць свежых пачуццяў, думак, асацыяцый. Можна казаць, што гэтая народная тэхніка набыла сваё вельмі сучаснае і наватарскае развіццё. Апрабацыяй гэтага



арыгінальнага мастацтва ў родных па духу аўтараў-эксперыментатараў сталася іх выстаўка "Маладосць і сталасць" у НММ (адміністрацыйны корпус музея), дзе экспанавалася больш як 20 работ. Яна пераканала ў тым, што на творчым энтузіязме, на веры ў неабмежаванасць мастацкіх магчымасцей, у шчырасці і непасрэднасці можна дасягнуць значна большага, чым на добра апрацаваным матэрыяле стандартных дэкаратыўных узораў.

Вось такая светлая і жывая ручаінка выцякае з досведу і творчай спантаннасці! І можна чакаць далейшых наватарскіх праектаў гэтага сямейнага дуэта на розных выставачных пляцоўках, дзе так чакаюць новага і шчырага слова мастакоў-першапраходцаў.

*На здымках: кампазіцыі Людмілы Налівайкі і Дзмітрыя Шаракапытава "У прасторы"; "Святло вачэй".*

**Кацярына БЯДУЛІНА**

**У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстаўка жывапісу Афеліі Міхлеевай "Мастацтва, якое лечыць нас" у межах дабрачыннага праекта "Няхай дзяцінства будзе шчаслівае".**





# Інсайт. Колер. Матылёк

Высока-высока, узмахнуўшы сваімі лёгкімі крыльцамі, праляцеў матылёк, пакінуўшы ў паветры пах духмяных руж. Куды ён ляціць? Што адчувае? Адказ на гэтае пытанне ведаў толькі ён.

Матылёк здаўна лічыцца сімвалам перараджэння, пачатку новага жыцця. Пра Афелію Міхлееву можна сказаць, што пачатак яе творчай дзейнасці чымсьці нагадвае працэс пераўвасаблення вусеня ў прыгожага матылька, бо мастацтва для яе адкрылася нечакана, нібы чароўны дар. Яна пачала маляваць пасля шасцідзесяці, і звязана гэта было з перанесенай хваробай, якая сур'ёзна ўскладняла яе жыццё. У хвіліны прыступаў Афелія Міхайлаўна бралася за пэндзаль... Так творчасць зрабілася для яе жыватворным эліксірам, сродкам вылячэння.

Першае, што прымушае позірк засяроджвацца на палотнах, створаных Афеліяй Міхлеевай, — гэта дыялог фарбаў, якія перадаюць амаль трохмерную прастору і чарадзейнае святло. У яе творчасці няма правілаў і канонаў. Ігра мазкоў, ігра колеру — усё гэта надае незвычайным карцінам настрой, яны як быццам ажываюць.

У творчасці Афеліі Міхлеевай цесна пераплятаецца некалькі стыхій: Агонь, Паветра, Вада, Зямля… Разглядаючы карціны мастачкі, можна ўбачыць і зеляніну мітычнага лесу, і гульню марскіх хваляў, апынуцца ў пясках пустэльняў, увайсці на імгненне ў яе чароўныя і казачныя сны…

Аглядаючы выстаўку, каля адной з карцін я спынілася. Задумалася. Чамусьці адразу ўспомніла, як вучылася ў школе з ахітэктурна-мастацкім ухілам, як аднойчы настаўніца запыталася: "Чаму ў цябе кубачак колеру марскіх хваляў, а не салатавы, які ён і ёсць насамрэч?" Тады я адказала: "Таму што гэта маё бачанне…" Вось і ў творчасці Афеліі Міхлеевай кожны знойдзе невытлумачальную таямніцу, загадку. І ўбачыць тое, што можа ўбачыць толькі ён, а хтосьці іншы ўбачыць іншае…

На вернісажы мастачка нечакана сама падышла да мяне і запыталася: "Што вы бачыце?" Так мы разгаварыліся.

**— Афелія Міхайлаўна, што для вас — пісаць карціны?**

— Я сама не магу сказаць, як і калі гэта пачалося. Зусім нечакана ўсё адбылося. Што для мяне маляваць? Гэта кшталту гульні, своеасаблівы маналог. Я магу ўхапіць пэндзлем адразу некалькі фарбаў і… Маляваць, маляваць… Не спыняючыся, не зважаючы на час. Суседзі параілі мне звярнуцца да мастацтвазнаўцы. Я доўга не рашалася на гэты, па сутнасці дзіцячы ўчынак, але ўсё ж… Гэта адбылося ў Барысаве. Мастацтвазнаўца пагладзеў мае работы і сказаў: "Мастакоў шмат. А мастакоў-каларыстаў — не. Вы для нас — знаходка!"

**— Вы сцвярджаеце, што мастацтва вылечвае. Інакш кажучы, гэта як малітва?**



— Так. Я часам падыходжу да карціны, прашу найвышэйшыя сілы: "Дапамажыце мне!" Уся мая малітва ў карціне, а карціна ў малітве!

**— Вам уласцівы інсайт?**

— Натуральна, так. Гэта проста цуд! Ён адбываецца нечакана. Часам сядзіш, нешта задумаеш, ды нічога не атрымоўваецца. А потым... Хутка, вокамгненна. Інсайт — накшталт яркага выбліску. Раз! Хвілінка, дзве… Перад табой — палатно, фарбы… Ігра колеру. Тры… Работа скончана. Выбліск святла згасае. Але засталіся пачуцці. Засталіся эмоцыі, настрой, адлюстраваныя на палатне…

Афелія здолела ўзнавіць разарваную гармонію душэўных перажыванняў, увасобіць пачуцці ў колер, рух у форму, знаёмыя вывы ў іншыя вывы — бачнага і нябачнага, усвядомленага і падсвядомага.

Гледзячы на яе карціны, пераконваешся ў тым, што колер можа ствараць неверагоднае, а мастацтва можа вылечваць. Падсілкоўваць, нават тады, калі моцы зусім няма. Нездарма кажуць, што часам трэба балюча спатыкнуцца, каб потым здзейсніць лёгкі палёт.

На хвілінку я адвяла позірк ад карцін і пагалядзела ўверх. Матылёк усё лунаў і кружляў над залай…

*На здымках: Афелія Міхлеева і яе карціны "Дзяцінства. Кішлак"; "У знаку Рыбаў".*

## ART-пацеркі

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**

Гунефа Мацюшэнкава, адметная мастачка і педагог, выкладае ў Слуцкай дзіцячай мастацкай школе. Адзначана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва, шматлікімі айчыннымі ды міжнароднымі ўзнагародамі за поспехі сваіх вучняў. Яе акварэльныя творы шырока прадставіла сталічная выстаўка "Суб'ектыўнае ў аб'ектыўным" (галерэя "Універсітэт культуры"). Лакачныя кампазіцыі Г. Мацюшэнкавай, напоўненыя тонкім суперажываннем стану прыроды, зачароўваюць трапяткім суладдзем і ўзаемапранікненнем колераў: дзе па-жывапіснаму сакавітых, а дзе някідка-нейтральных, як на манахромным эстэцкім эстампе. З экспрэсіі ліній, штрыхоў і фарбы, злучанай з жывой вадою, а таму непрадказальна-кап-



рызлівай, з'явіліся "Сакавік" — танюткія дрэўцы, абрысы дамкоў, ахінутыя святлынню і свежасцю; паэтызаваная сімволіка "Вербнага букета"; "Апошні прамень" — імгненне таго дзівоснага часу, калі на зялёны маналіт лістоты легла першае золата восені... Побач з акварэлямі Г. Мацюшэнкавай экспанаваліся работы сямі яе вучняў, сёння ўжо заўважных маладых мастакоў.

Пра стан і становішча сучаснага чалавека ў тэхнапрасторы мегаполіса задумалася фотамастачка Надзея Дзегцярова. Яе новы праект — нібы філасофская гульня на тэму: "Што можа выглядаць больш адзінокім за кропку на плоскасці? Хіба што сілуэт чалавека ў вялікім горадзе". Дзяўчына з сабакамі на праменадзе, падлетак у каменным лабірынце, апіваха ў падваротні, засяроджаная бабуля... У жорсткіх урбаністычных каардынатах "мабільных" перамоў, раскладу спраў і сустрэч, двароў-клетак, манатонных шэраў сцен, жалезабетонных слупоў, аднастайных лесвічных маршаў, закратаваных "еўравокнаў" чалавек мае сваю нішу і нібыта не



імкнецца вырвацца з яе геаметрыі. Ён рухаецца ў звыклым рытме, пакідаючы сярод чорна-белых кантрастаў ценю і святла свой сілуэт — як люструнак адзіноты... Выстаўка стрыт-фатаграфіі Н. Дзегцяровай "Геаметрыя адзіноты" адбылася ў галерэі "Універсітэт культуры".

Аляксандра Дзенісеня, 18-гадовая цымбалістка, пераможца многіх выканальніцкіх спаборніцтваў, навучэнка Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, прадставіць нашу краіну на міжнародным конкурсе маладых музыкантаў "Еўрабачанне-2012" ("Eurovision Young Musicians"). Беларусь дэбютавала на гэтай сур'ёзнай і прэстыжнай імпрэзе ў 2010-м. Тады наш віяланчэліст Іван Карызна выйшаў у фінал конкурсу.

*На здымках: Гунефа Мацюшэнкава "Венецыя"; работа Надзеі Дзегцяровай з выстаўкі "Геаметрыя адзіноты".*

Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

**Бэла Масумян — бліскучая, зыркая зорка на тэатральным небасхіле нашай краіны, выдатная, знакамітая актрыса Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Амаль увесь яе творчы лёс, пачынаючы з 1961 года, звязаны менавіта з гэтым тэатрам. Тут жывуць яе гераіні, якія вылучаюцца абаяльнасцю, знешняй і ўнутранай прыгажосцю, моцнымі характарамі і непахіснасцю перад жыццёвымі перашкодамі: Вера “Пад адным небам” А. Маўзона, Вольга ў “Аб’яве ў вячэрняй газеце” А. Паповай, Вара ва “Узнятай цаліне” паводле М. Шолахава, Людміла ў “Дзецях Ванюшына” С. Найдзёнава, Мая ў спектаклі “У дзень вяселля” В. Розава, Рыта ў пастаноўцы “А досвіткі тут ціхія” паводле Б. Васільева, Старая актрыса ў “Рулетцы” паводле Ф. Дастаеўскага, Ірада ў “Антоніі і Клеапатры” У. Шэкспіра, Маша ў “Трох сёстрах” А. Чэхава, Джэні ў драме Э. Олбі “Усе ў садзе”, Валянціна ў п’есе І. Вырыпаева “Валянцінаў дзень” і многія іншыя. Усе гэтыя вобразы жывіла трапяткая душа чароўнай і непаўторнай Бэлы Масумян. Сцэнічныя гераіні гавораць яе чыстым цудоўным голасам, пакутуюць і радуюцца пра яе сапраўдныя пачуцці. І сённяшніх тэатралаў вабіць яе імя. Яны шчыра радуюцца за любімую актрысу, адзначаную сёлета высокай прэміяй.**

# Актрыса: лёс і характар



**— Бэла Амікаўна, вы атрымалі вельмі прэстыжную ўзнагароду дзяржавы — спецыяльную прэмію Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва. Што значыць для вас гэтая адзнака творчасці? Ці ёсць адчуванне, што зроблена штосьці важнае ў вашым творчым і асабістым жыцці?**

— Мая ўзнагарода — гэта прызнанне, скіраванае майму тэатру — Нацыянальнаму акадэмічнаму драматычнаму тэатру імя М. Горкага. Гэта дасягненне калектыву, у якім працуюць сапраўдныя майстры сцэны, людзі, захопленыя сваёй справай. Безумоўна, прыемна, што на маю асабістую працу звярнулі ўвагу, бо гэта не толькі спектаклі апошніх гадоў, але, магчыма, усё, што зроблена за маё вялікае творчае жыццё. Прыемна, што мой тэатр — адзін з лепшых тэатраў краіны, і наогул радуе, што тэатральнае мастацтва зноў набывае прэстыж у грамадстве і да яго звернута ўвага кіраўніцтва дзяржавы. Я шчаслівы чалавек, таму што гэтую радасць падзяліла са мной мая мама, якой 31 снежня мінулага года споўнілася сто гадоў. Мае ж узнагароды належаць і ёй, як самаму блізкаму і дарагому мне чалавеку.

**— Вы актыўна занятая ў рэпертуары тэатра. Гэта “Леў зімой” Дж. Голдмена, “Праўда — добра, а шчасце лепш” А. Астроўскага, “Ідэальны муж” О. Уайльда, “Сунічная паляна” І. Бергмана і іншыя. Ці ёсць спектакль, найбольш любімы вамі?**

— Я не іграю нелюбімых спектакляў. Усе, якія ёсць у рэпертуары, мне вельмі дарагія і неабходныя ў маім акцёрскім жыцці. Адзін з апошніх па часе спектакляў — “Леў зімой”. Перш за ўсё, гэта выдатная драматургія. Гэта непрыдуманая гісторыя. Да таго ж, яе ігралі выдатныя акцёры. Вялікая работа была праведзена над тэкстам, над яго гучаннем. У словах часам нібы зашыфравана музыка, якую павінна пачуць глядзельная зала.

Мне вельмі хацелася, каб роля Элінор Аквітанскай стала маёй, бо гэтак няпроста стварыць вобраз, надзелены вялікім розумам, высакароднасцю і моцным каханнем. І ў дадзеным выпадку каханне да Генры — сэнс жыцця маёй гераіні. Ёю кіруе толькі адно жаданне: утрымаць яго як мага даўжэй, бо яна разумее, што нічога вечнага на зямлі не існуе. “Леў зімой” — гэта гісторыя моцнай, цудоўнай жанчыны, у якой было дзесяць дзяцей. У спектаклі ж ідзе размова толькі пра трох яе сыноў. І яна вядзе барацьбу за каханне — тую аснову, на якой трымаецца жыццё і сусвет. Без кахання ж наогул не можа быць існавання на зямлі. Роля вымагае вялікіх душэўных сіл і тое ж самае яна дае і мне. Дарэчы, гэта можна сказаць і пра многія іншыя ролі. Маіх гераінь вельмі родніць і аб’ядноўвае адзін вобраз — Медэя: палкая, магутная, трапяткая і жывая душой. Яна не забойца, а жанчына, якая прагне кахання, і асоба, якая не можа жыць без кахання. Сустракаліся таксама іншыя цікавыя вобразы, не падобныя да Медэі. Скажам, Марыя паводле аднайменнай п’есы А. Салынскага. Незвычайная для мяне і роля ў спектаклі “Праўда — добра, а шчасце лепш” А. Астроўскага. Усе прызвычаіліся бачыць у Маўры Тарасаўне Барабошавай толькі мяшчанку, купчыху. Я ж бачу іншае: звычайную жанчыну, якой заўсёды хочацца быць асаблівай, неадназначнай у розных сітуацыях, то адкрытай, то замкнёнай для людзей і нават цэлага свету.



Мне было цікава працаваць і над “Пане Каханку” А. Курэйчыка. П’еса стваралася на падмостках, супольна: драматургам, акцёрамі і пастаноўшчыкамі спектакля. Кожны ўклаў у яе штосьці сваё. І таму гэтая работа — адна з дарагіх і незвычайных для тэатра.

**— Бэла Амікаўна, ці ў кожную ролю ўносіце штосьці сваё, чаго няма ў драматурга і ў рэжысуры?**

— Без гэтага проста немагчыма. Тэатральнае мастацтва ствараецца жывымі людзьмі і жыве той энергетыкай, якая выходзіць са сцэны. Думаю, што глядач ідзе на спектакль не толькі дзеля тэксту п’есы і назвы, але і дзеля тых ці іншых акцёраў, занятых у пастаноўцы.

У мастацтве галоўнае — самасць. Заўсёды хочацца ўнесці тое, што адчуваеш сам, але не заўсёды гэта атрымоўваецца. Сваё бачанне свету, усё, што вакол цябе, і тое, як ты ўспрымаеш свет, — вельмі важна для ўвасаблення вобраза, які можа зацікавіць гледача. Я бязмежна люблю сваю справу, рэжысёраў, з якімі працую, — Барыса Іванавіча Луцэнку, Сяргея Міхайлавіча Кавальчыка, Валянціну Рыгораўну Еранькову… Кожны з іх працуе па-рознаму і ўсе па-рознаму дапамагаюць мне. У мастацтве люблю таленавітых людзей. Такіх, як мая калега Наталля Гайда, з якой мы сябруем многія гады. Яна не проста выдатная актрыса, але яшчэ і цудоўны чалавек, такія сустракаюцца вельмі рэдка ў жыцці кожнага з нас. У ёй заўсёды прысутнічае пазітыўная энергія, яна выпраменьвае цеплыню, святло і дорыць добры настрой на доўгі час. І яна была побач са мной, калі я атрымала ўзнагароду. Шчыра абняла і павіншавала. Помню яе іскрысты позірк, радасць у вачах — я так ей удзячна за гэту прысутнасць. І мне б хацелася быць заўсёды побач з ёю — у самыя розныя хвіліны яе жыцця.

**— Скажыце, калі ласка, а якія ў вас захапленні акрамя тэатра?**

— Я люблю літаратуру, прагулкі пешшу, лес, прыроду. З дзяцінства кнігі былі маім адзіным захапленнем. Мама прывучыла мяне да кніг, да дысцыпліны і парадку. У штодзённым жыцці я мінімалістка. Імкнуся не назапашваць непатрэбныя рэчы, нават не “напакоўваць” халадзільнік, калі не прадбачыцца блізкіх свят і візітаў сяброў. Яшчэ са школьных гадоў я многае зразумела і ўсё, што было закладзена ў дзяцінстве, што зрабілася стрыжнем майго жыцця, — гэта ад маёй Мамы. І дзякуючы яе выхаванню я ўсё ўмею, раблю ўсялякую справу з захапленнем, ніякая перашкода не ўяўляецца мне цяжкай. З першых творчых крокаў мне падабаліся мужчынскія ролі — Авадзень, Гамлет… І да сённяшніх дзён мне падабаюцца моцныя характары. Невыпадкова такімі атрымліваюцца ў мяне жаночыя вобразы. Я думаю, што Дэздэмона — не млявая паненка і юная Джульета — натура моцная, калі здзейсніла такі ўчынак, на які не кожны здольны. Мне падабаецца і становішча сучаснай жанчыны, якая ў грамадстве стаіць на адной прыступцы з мужчынам, а іншым разам нават вышэй за яго, бо многага дасягае на службе, выхоўвае дзяцей, з’яўляецца гаспадыняй дома і пры гэтым — прывабнай і незалежнай асобай. Яна застаецца памяркоўнай і разумнай, калі кіруецца наступным: тое, што нас не забівае, робіць нас мацнейшымі. Гэта і мой любімы выраз.

**— Якія з’явы заўважаеце вы апошнім часам у тэатры? Якім бы вы хацелі бачыць сённяшні тэатр?**

— На жаль, гледзячы многія сённяшнія пастаноўкі, нельга не заўважыць, што з тэатра знікае слова. Заканчваецца першароднасць слова, якое вельмі важнае на драматычнай сцэне. Добра, што сучасныя акцёры ўмеюць спяваць і танчыць, але за іх талентамі хацелася б яшчэ заўважаць і драматурга, і рэжысёра. Часам жа за вынаходніцтвамі губляецца сэнс, і тады проста незразумела, дзеля чаго гэта ўсё робіцца пастаноўшчыкамі спектакля. Згадаем тэатр Рамана Віктюка. Ен незвычайны, эстэцкі, але ў яго пастаноўках заўсёды прачытваецца ідэя, відавочная рэжысёрская канцэпцыя. І таму яго тэатр прыцягальны і цікавы, прынамсі для мяне. На жаль, такі тэатр не ўсім нашым гледачам зразумелы, але ж гледача трэба выхоўваць, прымушаць думаць, а не толькі забаўляць у залу, каб той прыходзіў забаўляцца. Мне б не хацелася, каб тэатр ператвараўся ў калейдаскоп. А так хочацца, каб наш беларускі тэатр захоўваў сваё ўласнае аблічча. Дарэчы, на аглядзе спектакляў у межах конкурсу на атрыманне Першай Нацыянальнай тэатральнай прэміі было нямала цікавых драматычных пастановак, якія прывезлі тэатры з Гомеля, Магілёва, Віцебска, іншых гарадоў Беларусі. Відавочна, што там ёсць і цікавыя акцёры, і цікавыя рэжысёрскія інтэрпрэтацыі вядомых класічных і сучасных твораў.

**— Над якім матэрыялам вы працуеце сёння, чым хочаце парадаваць свайго гледача ў бліжэйшы час?**

— Я спадзяюся на цікавы вынік працы разам з Барысам Іванавічам Луцэнкам над п’есай “Візіт старой дамы” Ф. Дзюрэнмата. Над кожным матэрыялам гэты рэжысёр працуе вельмі сур’ёзна, імкнецца да раскрыцця самага глыбіннага і для сябе, і для нас, акцёраў. Мы пачалі ўжо распрацоўку вобразаў і пэўнай ідэі. Цікавы драматургічны матэрыял будучага спектакля і галоўная гераіня, якую я і хачу сыграць на маей любімай сцэне.



*На здымках: народная артыстка Беларусі Бэла Масумян у спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага: “Праўда добра, а шчасце — лепш”, “Валянцінаў дзень”.*

Да 1150-годдзя Полацка

# Вучыла «голасу ціхмянаму, слову дабрачыннаму»

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,
АленаЧАРНЯЕВА,
супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг
і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі**

**На берагах Дзвіны і Палаты, у Полацку або ў адной з блізкіх княжных вотчын з'явілася на свет дзяўчынка, якой наканавана было далучыць да свайго імя назву роднага горада і назаўсёды застацца ў гісторыі і памяці беларускага народа. Імя яе — Еўфрасіння.**

Гісторыкі звязваюць з імем Еўфрасінні полацкае летапісанне і збіранне бібліятэкі Сафійскага сабора. Еўфрасіння не толькі сама перапісвала і перакладала з іншых моў кнігі, але і "наем емлюще", гэта значыць арганізавала скрыпторый, дзе наёмныя пісцы перапісвалі кнігі, якія яна лічыла неабходным. Дарэчы, перапісванне кніг у тыя часы лічылася вельмі цяжкай і складанай справай. Праца перапісчыкаў цанілася настолькі высока, што царква абяцала ім адпушчэнне многіх грахоў.

Заснаваўшы ў Полацку два манастыры, князёўна-ігумення клапацілася, каб вучні манастырскіх школ разам з граматаю навучыліся "чысціні душэўнай і цялеснаму супакаенню". Яна нястомна збірала вакол сябе таленавітых людзей, стала нашай першай мецэнаткай. Па заказе Еўфрасінні дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, якая лічыцца дасканалым узорам Полацкай архітэктурнай школы. Каб аздобіць полацкія храмы абразамі, Еўфрасіння адкрыла іканапісную майстэрню. Ігуменння спрыяла стварэнню ўнікальных фрэскавых размалёвак Спаскага храма. Творчая натура падзвіжніцы праяўлялася ва ўсім, што яна рабіла. Яна запрасіла мастакоў, якія распісалі сцены храма біблейскімі сюжэтамі, выявамі святых. На хорах у асобнай келлі, прызначанай для самой прападобнай, таксама быў выкананы найбагацейшы роспіс. Асобнае месца ў храме было адведзена для ўнікальнага напрастольнага крыжа, які Еўфрасіння заказала лепшаму ювеліру Кіеўскай Русі Лазару Богшу.

Вялікім быў уплыў ігумені на знешнюю і ўнутраную палітыку Полацка. Яна выступала супраць княскіх усобіц, папярэджвала, што братазабойныя войны могуць прывесці Бацькаўшчыну да гібелі.

Еўфрасіння Полацкая стала адной з першых кананізаваных жанчын на ўсходнеславянскіх землях. Зразумела, што ў перыяд панавання "ваяўнічага атэізму" дзейнасць святой або замоўчвалася, або падавалася ў скажоным выглядзе. Так, адзін з вядомых беларускіх гісторыкаў, аўтар падручніка для сярэдняй школы, у 70-я гады дазваляў сабе называць выдатную асветніцу "цемрашалкай".

У апошнія дзесяцігоддзі беларускія гісторыкі, журналісты, пісьменнікі, мастакі разам з царквою зрабілі нямала, каб вярнуць светлае імя Еўфрасінні.

У фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі захоўваецца некалькі прац, прысвечаных дзеду Еўфрасінні, полацкаму князю Усяславу, які быў, па сутнасці, заснавальнікам беларускай дзяржаўнасці. Гэта артыкул гісторыка і педагога, выкладчыка Віцебскага настаўніцкага інстытута Дзмітрыя Леанардава "Полацкі князь Усяслаў і яго час", надрукаваны ў часопісе "Полоцко-Витебская старина" (1912 — 1916 гг.), і кніга Сяргея Сахарава "Полацкі князь Усяслаў — беларускі нацыянальны асілак" (1939 г.).




Асноўная крыніца біяграфічных звестак пра асветніцу — яе жыццяпіс, складзены ў канцы XII стагоддзя невядомым аўтарам. Ім мог быць манах або ігумен аднаго з полацкіх манастыроў. Маці-ігумення часта сама вяла ўрокі ў манастырскіх школах і вучыла "хадзе рахманай, голасу ціхмянаму, слову дабрачыннаму, ядзенню і піццю маўкліваму; пры старэйшых маўчаць, мудрых слухаць; да старэйшых — пакоры, да родных і меншых — любові някрывадушнай; мала казаць, а болей разумець". І гэта ў XII стагоддзі!

"Жыццяпіс Еўфрасінні Полацкай" дайшоў да нас у шасці рэдакцыях, прадстаўленых у больш як ста спісах. Некалькі такіх спісаў захоўваюцца ў Бібліятэцы Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу.

У фондах ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца некалькі друкаваных варыянтаў "Жыццяпісу", перавыданні больш позніх часоў. Сярод іх выданне пад рэдакцыяй вядомага беларускага гісторыка Аляксея Сапунова. Аўтар твораў па гісторыі і этнаграфіі Віцебшчыны, удзельнік стварэння Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея, у 1888 годзе надрукаваў у адным томе тры варыянты "Жыццяпісу", адзін яго асобнік падараваны бібліятэцы Віцебскай вучонай Архіўнай камісіі, пра што сведчыць аўтограф аўтара на вокладцы кнігі. На другім асобніку гэтага ж выдання — рукапісныя заўвагі А. Сапунова адносна надпісаў на крыжы Еўфрасінні Полацкай.




У 1895 годзе ў Віцебску быў надрукаваны гістарычны эскіз гісторыка, археографа, былога супрацоўніка Інбелкульта і дырэктара бібліятэкі АН БССР Дзмітрыя Даўгялы, прысвечаны лёсу крыжа Еўфрасінні ад часу яго ўтварэння да XIX стагоддзя.

Сярод сучасных даследванняў жыцця Еўфрасінні Полацкай — працы У. Арлова, А. Марціновіча, А. Мельнікава, А. Міхаленкі, архімандрыта Л. Гарошкі.

У мінулым годзе ў ЦНБ НАН Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі "Полоцкое Радование: Свято-Евфросиниевские Торжества 1910 г." — юбілейнага выдання да 100-годдзя пераносу святых мошчаў Еўфрасінні з Кіева ў Полацк.

З апісаннем духоўных подзвігаў святой, а таксама з паэтычнымі і музычнымі творамі, прысвечанымі знакамітай палачанцы, можна пазнаёміцца ў кнігах аўтараў, якія прысвяцілі ёй вершы. Выданні чакаюць тых, хто цікавіцца жыццём святой Еўфрасінні Полацкай і нагул беларускай гісторыяй.

***На здымках: выданні пра святую Еўфрасінню А. Марціновіча і А. Сапунова (з аўтографам).***

# Кветкі ў вянок Кабзару

**Ірына ТУЛУПАВА**

**У бібліятэцы № 20 Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска адбылася сустрэча-ўрок, прысвечаная Т.Шаўчэнку. Яе правялі дырэктар бібліятэкі Святлана Чабатар, старшыня Мінскага грамадскага аб'яднання ўкраінцаў у Беларусі "Заповіт", заслужаны работнік культуры Украіны Галіна Калюжная і намеснік старшыні Рэспубліканскага таварыства дружбы "Беларусь-Украіна" Ганна Сапсай.**

Урок для вучняў сёмых класаў прымеркавалі да дня нараджэння Т. Шаўчэнкі, які адзначаецца 9 сакавіка. Бібліятэка № 20 вось ужо амаль дваццаць гадоў мае вялікі аддзел украінскай кнігі. "Літаратуру нам пастаўляе парламенцкая бібліятэка Украіны", — распавядае Галіна Калюжная. Таварыства некалі праводзіла ўрокі вывучэння мовы, пераважна для дзяцей украінцаў, якія жывуць у нашай краіне. Паступова фарміравалі і аддзел у бібліятэцы. Літаратура — пераважна па гісторыі Украіны, шмат вучэбнай і моваznaўчай. Але і мастацкая, асабліва класіка, прысутнічае. Ёсць Іван Франко і Леся Украінка. Прадстаўлена таксама сучасная плынь. Да прыкладу, кніга перакладаў Д. Паўлычкі. Сярод іх — пераклады Янкі Купалы: "Санеты", "Я не для вас…", "Беларус" ды інш.

У бібліятэку па ўкраінскую літаратуру прыходзяць не толькі школьнікі і наведвальнікі, якія зацікавіліся ўкраіністыкай для пашырэння кругагляду. Завітваюць студэнты гістарычных факультэтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Са студэнтамі гістфака БДУ прадстаўнікі аб'яднання "Заповіт" правялі чытанні, прысвечаныя М. Грушэўскаму, П. Орліку. Сумесна з Вілейскім райвыканкамам збіраюцца праводзіць Дзень гістарычнай кнігі. А да 340-годдзя П. Орліка арганізавалі адмысловы конкурс, вынікі якога будуць падведзены ў верасні да Дня беларускага пісьменства.

Адкрываючы такі ўрок, прадстаўнікі ўкраінскіх таварыстваў у Беларусі падкрэслілі: Т. Шаўчэнку называюць бацькам нацыі. Менавіта таму, што даказаў: украінская мова літаратурная, а не дыялектная, як лічылася. Гаварылася пра кнігу як твор мастацтва і люстэрка эпохі, пра тое, што змест і значэнне выданняў розныя, але яны карысныя сучаснікам ды нашчадкам: калі пад вокладкай — насамрэч сапраўдная літаратура. Кнігі на сустрэчы са школьнікамі прадстаўляліся, без сумненняў, унікальныя. Чаго варты адзін толькі праект у двух тамах Валерыя Шаўчука "Муза роксоланьска" (Кіеў, "Либідь", 2005)! Багата ілюстраванае выданне ўтрымлівае гістарычны (і, як сказана ў кнізе, — канспектыўны) агляд "Пісьменства другой паловы XVI — XVIII стст.". Бясспрэчна, зацікавяць такія фаліянты даследчыкаў культуры і традыцый суседняй краіны. Апроч усяго яны сведчаць пра сучаснае майстэрства афармлення кнігі.

Што да бібліятэкі № 20 г. Мінска, то яна стала разам са сталічным мікраёнам, які актыўна забудоўваўся ў 1980-я гады. Дзеці за гэты час выраслі і самі сталі бацькамі. Цяпер у будынак па вул. Жукоўскага, 9/1 ідуць дарослыя разам са сваімі дзецьмі: тут месцяцца гарадская публічная № 20 і дзіцячая бібліятэка № 4.

Акрамя аддзела ўкраінскай літаратуры, тут ёсць і літоўскае чытанне. Аднак найперш у кніжніцы не забываюць на сваё, беларускае. Паліцы з беларускімі кнігамі размяшчаюцца адразу ў пачатку чытальнай залы і абанемента, прамінуць іх немагчыма. Шмат новых паступленняў атрымліваюць бібліятэкары з беларускіх выдавецтваў. Пра тое, што кнігі запатрабаваныя, сведчыць статыстыка. Так, кнігу Івана Карэнды "Воплаўская госця" (РВУ "Літаратура і Мастацтва", 2011), якая паступіла ў бібліятэку ў студзені, выдавалі ўжо 4 разы. Актыўна чытаюць іншых аўтараў: Віталя Кірпічэнку — "Планета псов и ягнят" (РВУ "Літаратура і Мастацтва", 2011), Юлію Чурко — "Жизнь как она есть" ("Четыре четверти", 2011).

Да юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа тут падрыхтавалі экспазіцыю, дзе побач з кнігамі паказваюцца і ксеракопіі старонак рукапісаў. Усе, хто завітае ў кніжніцу па прычыне цікавасці да творцаў, спрычыняцца і да багацця роднай мовы ды моў блізкіх нам краін.

# Што сабралі нашы продкі

**Алесь СУША,**
**вучоны сакратар**
**Нацыянальнай**
**бібліятэкі Беларусі**




**Кніжная культура Беларусі здаўна развівалася ва ўзаемадзеянні з традыцыямі іншых краёў і народаў. На наш погляд, ажно да XVIII стагоддзя найбольш актыўным і плённым было творчае супрацоўніцтва паміж кніжнікамі Беларусі і Украіны: скрыпторыі і друкарні нашых зямель працавалі як на беларускага, так і на ўкраінскага чытача.**

Друкары і гравёры часта пераязджалі з Беларусі ва Украіну і назад (як Іван Фёдараў і Спірыдон Собаль, Аляксандр і Лявонцій Тарасевічы), многіх тагачасных пісьменнікаў і кніжных графікаў немагчыма аднесці толькі да адной з культур (як Мялецій Смятрыцкі, Лявонцій і Стэфан Зізаніі, Іпацій Пацей, Георгій Каніскі і інш.). Урэшце, падобныя былі тэматыка, афармленне, моўная палітра беларускіх і ўкраінскіх выданняў таго часу. Адным з вынікаў такой знітаванасці стала наяўнасць вялікай колькасці помнікаў кніжнай культуры Беларусі ва ўкраінскіх дзяржаўных і прыватных зборах і наадварот — украінскіх у Беларусі.

Найбуйнейшым кнігазборам сучаснай Украіны з'яўляецца Нацыянальная бібліятэка Украіны, якая знаходзіцца ў Кіеве і носіць імя знакамітага вучонага Уладзіміра Вярнадскага. Зразумела, што ў яе 15-мільённым зборы знайшлі сваё месца і шматлікія помнікі беларускага паходжання. Тут і шматлікія паасобныя выданні (як, напрыклад, знакамітыя Аршанскае Евангелле і Супрасльскі Ірмалой), і цэлыя гістарычныя кніжныя калекцыі (напрыклад, вядомая бібліятэка Храптовічаў са Шчорсаў).

Прывяду прыклад адной не вельмі вядомай, але надзвычай каштоўнай кніжнай калекцыі беларускага паходжання — кнігазбору колішняй Беларускай духоўнай семінарыі.

Гэты кнігазбор сфарміраваўся ў Полацку — горадзе з багацейшымі кніжнымі традыцыямі — і разам з бібліятэкай Полацкай езуіцкай акадэміі стаў адным з найбольшых збораў горада ў XIX ст. Дзякуючы шматлікім публікацыям бібліятэка полацкіх езуітаў больш вядомая сучаснаму беларускаму чытачу, аднак па сваёй значнасці для айчыннай культуры кнігазбор Полацкай духоўнай семінарыі (па першым часе яна нярэдка называлася Беларускай духоўнай семінарыяй) фактычна ёй не саступаў. У адрозненне ад колькасна большага кнігазбору езуітаў значнасць бібліятэкі Полацкай духоўнай семінарыі абумоўлена яе разнастайнасцю і вялікай колькасцю дакументаў беларускага паходжання. У адпаведнасці з навучальнай праграмай у бібліятэку паступалі кнігі Біблііі, багаслужэбныя выданні, праваслаўныя, каталіцкія і ўніяцкія катэхізісы (у езуітаў дамінавалі каталіцкія), навуковыя і навучальныя выданні па багаслоўі, філасофіі, этыцы, гісторыі, юрыспрудэнцыі, мовазнаўстве, літаратуразнаўстве, натуральных і матэматычных навуках, літаратурныя працы, энцыклапедыі і даведнікі, перыядычныя выданні. Асноўную частку складалі старадрукаваныя кнігі на лацінскай, польскай, нямецкай, французскай, італьянскай, рускай, старабеларускай, грэчаскай мовах, выдадзеныя ў XVI — пачатку XIX ст. Аднак меліся таксама выданні і рукапісы на дацкай, галандскай, іспанскай, шведскай, яўрэйскай, персідскай, "татарскай" і іншых мовах.

Унікальным з'яўлялася папаўненне бібліятэкі Беларускай семінарыі выданнямі розных хрысціянскіх канфесій, наяўнасць значнай колькасці царкоўна-палемічных твораў. Сярод іншага ў бібліятэцы знаходзіліся працы беларускіх асветнікаў і царкоўных дзеячаў Пятра Скаргі, Альберта Віюка Каяловіча, Ігната Кульчынскага, Адама Нарушэвіча, Бенедыкта Дабшэвіча, Анёла Доўгірда, Яна і Андрэя Снядэцкіх, Станіслава Юндзіла, Васіля Лужынскага і іншых. Разнастайнасць і значнасць кніжных помнікаў дазваляюць нам называць гэты кнігазбор адным з найбольш каштоўных для беларускай культуры.



Як жа сталася, што такая цудоўная кніжная калекцыя апынулася па-за межамі нашай краіны? На вялікі жаль, яе лёс, як і лёсы многіх іншых беларускіх кнігазбораў, быў не вельмі спрыяльным.

Бібліятэка пачала фарміравацца пры Полацкай духоўнай семінарыі, якую заснаваў у 1806 г. уніяцкі мітрапаліт Іраклій Лісоўскі. Першапачатковую базу для яе склалі царкоўныя і манастырскія бібліятэкі Полацкай уніяцкай архіепархіі. Шмат што адмыслова набывалася і перадавалася ў дар з Расіі і іншых краін. Напрыклад, нямала выданняў па працягу першага перыяду існавання бібліятэкі было атрымана ад праваслаўных і ўніяцкіх архіерэяў, такіх як І. Лісоўскі, І.Красоўскі, Я.Мартусевіч, В. Садкоўскі, В. Лужынскі.

З 1808 г. бібліятэка размясцілася разам з семінарыяй у будынках зачыненага царскімі ўладамі манастыра базыльян пры Полацкім Сафійскім саборы (тыя будынкі да сёння не захаваліся). Адпаведна зборы манастыра і Полацкага Сафійскага сабора ўліліся ў калекцыі створанай семінарыі. У 1812 г. бібліятэка была разрабавана французамі, але сіламі палачан у хуткім часе аднавіла сваю працу.

У 1820-я гады вялася падрыхтоўка да адкрыцця на базе семінарыі вышэйшай навучальнай установы — уніяцкай духоўнай акадэміі. Дарэчы, іншай ВНУ на тэрыторыі сённяшняй Беларусі тады не існавала. Безумоўна, склад бібліятэкі мусіў адпавядаць высокаму статусу, каб забяспечыць навучальны працэс на якасна новым узроўні. Аднак праект трансфармацыі семінарыі ў акадэмію рэалізаваны не быў з-за слушнага меркавання, што стварэнне акадэміі будзе спрыяць згуртаванню і ўзмацненню ўніяцкай царквы.

У выніку мер па русіфікацыі ўніяцкай царквы напярэдадні яе поўнай ліквідацыі ў 1830-х гадах адбывалася імклівае насычэнне гэтага полацкага кнігазбору выданнямі расійскага паходжання і прымусовае вывядзенне з ужытку падручнікаў, катэхізісаў і багаслужэбных выданняў уніяцкіх друкарань і кніг заходніх аўтараў. Да таго ж у 1830-х гадах кнігазбор Полацкай семінарыі папоўніўся зборамі шэрагу зачыненых базыльянскіх манастыроў Паўночнай Беларусі, пра што сведчаць не толькі гістарычныя крыніцы, але і адзнакі на кнігах пра прыналежнасць папярэднім уладальнікам.

Пасля ліквідацыі уніі ў 1839 г. семінарыя стала праваслаўнай. Яе бібліятэка працягвала развівацца, папаўняючыся літаратурай, якая паступала ўжо пераважна з Расіі. У 1869 г. фонд налічваў 6 тысяч тамоў, а ў 1888-м — восем тысяч. Аснову каштоўных калекцый бібліятэкі склалі старыя ўніяцкія зборы (паводле звестак дарэвалюцыйных гісторыкаў, яны займалі 18 шафаў).

У 1856 г. духоўная семінарыя была пераведзена ў Віцебск, што можна лічыць адной з акцый царскай улады па паступовым зніжэнні аўтарытэту і эканамічнай значнасці Полацка як культурнага цэнтра беларускіх зямель, колішняга цэнтра моцнага княства, ваяводскай і губернскай сталіцы. У Віцебску семінарыя праіснавала да рэвалюцыйных падзей 1917 г.

Распараджэннем Сінода Расійскай Праваслаўнай Царквы ў 1903 годзе найбольш рэдкія і каштоўныя кнігі былі перададзеныя Кіеўскай духоўнай акадэміі. Спецыялісты, якія прыехалі з Кіева, падрабязна агледзелі даўнюю частку бібліятэкі і забралі з сабою амаль усё — змест 17 з 18 шафаў. У камісію для перадачы кніг Кіеўскай акадэміі ўваходзілі этнограф і фалькларыст Мікалай Нікіфароўскі і гісторык Дзмітрый Даўтяла. Малаверагодна, што гэтыя людзі падтрымлівалі вываз культурных каштоўнасцей з роднага краю. Да таго ж яны абодва ў свой час скончылі Віцебскую духоўную семінарыю, у якой захоўваліся кнігі з Полацка. Безумоўна, М. Нікіфароўскі і Д. Даўтяла карысталіся старой бібліятэкай і добра ведалі пра яе каштоўнасць. Верагодна, яны ніяк не маглі паўплываць на ўжо прынятае рашэнне пра вываз кніг у Кіеў. З іншага боку, навукоўцы клапаціліся пра захаванне каштоўнага кнігазбору, якое ў Кіеве можна было б лепш забяспечыць.

Аднак для Беларусі чарговы айчынны кнігазбор аказаўся страчаным. Апісанне вывезеных кніг было апублікавана ў 1906 г. А. Крылоўскім у "Сістэматычным каталогу кніг бібліятэкі Кіеўскай духоўнай акадэміі (былой Полацкай уніяцкай бібліятэкі)". Цяпер менавіта гэта частка бібліятэкі Полацкай духоўнай семінарыі захоўваецца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. Вярнадскага.

У той жа час наяўнасць ва Украіне асобных кніжных помнікаў і цэлых гістарычных калекцый беларускага паходжання з'яўляецца асновай для партнёрства і ўзаемадзеяння нашых бібліятэк і даследчыкаў. Дадатковым стымулам для нашага ўзаемадзеяння з'яўляецца і тое, што многія гістарычныя калекцыі апынуліся падзеленымі на часткі, якія знаходзяцца ў розных краінах. Гэта якраз датычыць і бібліятэкі Беларускай духоўнай семінарыі. Адносна невялікі фрагмент колішняга велічнага збору застаўся ў Беларусі і ў 1920-х гадах паступіў у фонды Дзяржаўнай бібліятэкі БССР (цяпер — Нацыянальная бібліятэка Беларусі), дзе беражліва захоўваецца дагэтуль. Таму будзем спадзявацца на працяг супрацоўніцтва бібліятэк Беларусі і Украіны з мэтай вывучэння нашай агульнай кніжнай спадчыны. Падстаў для такіх стасункаў больш чым дастаткова.

***На здымках: пячатка бібліятэкі Полацкай духоўнай семінарыі; кніга са штампам і рукапіснымі пазнакамі пра прыналежнасць бібліятэцы Віцебскай духоўнай семінарыі.***

## Жывапіс Савіцкага

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі працуе выстаўка "Жывапіс раскрыжаванай душы", прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння народнага мастака СССР і Беларусі Міхаіла Савіцкага.**

Выстаўка складаецца з двух асноўных раздзелаў. Найперш яна кніжная — у экспазіцыі прадстаўленыя выданні, дзе расказваецца пра лёс і творчасць мастака, яго выступленні ў прэсе, паказваюцца надрукаваныя рэпрадукцыі. Сярод выданняў — С. Дангулаў "Мастакі. Літаратурныя партрэты" (Масква, "Советский писатель", 1987 г.), фотаальбом "Міхаіл Савіцкі" (аўтар тэксту і ўкладальнік Б. Крэпак. — Мінск, "Беларусь", 2008 г.).

У зале прадстаўленыя таксама рэпрадукцыі знакамітых палотнаў "Партызаны", "Партызанская Мадонна", "Мадонна Біркенау", серыі "Лічбы на сэрцы" — яны склалі цэнтральны раздзел экспазіцыі. Адлюстравана і трагічная тэма Чарнобыля цыклам "Чорная быль".

Бясспрэчна, зацікавяць наведвальнікаў рэпрадукцыі партрэтаў Янкі Купалы, Аляксандра Пушкіна, Фёдара Дастаеўскага ды іншых вядомых людзей.

**Рыта СТАХ**

## Дзесяцігоддзе з землякамі

**Новазасімавіцкая сельская бібліятэка Пружанскага раёна адзначыла свой 10-гадовы юбілей. Пра гісторыю бібліятэкі, стан спраў распавяла на свяце "дамавуха", ролю якой узяла на сябе актыўная маладая чытачка Галіна Палуэктава.**

Дзесяць самых актыўных чытачоў атрымалі дыпломы ад кіраўніцтва цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Рэкардсменам па чытанні кніг стала Людміла Слесарава, па чытанні перыядычных выданняў — Ніна Юдзіна. А на віктарыне "Пра што спыталі ў бібліятэкара?" кемлівыя чытачы распазналі "бібліятэчныя кур'ёзы" і правільна назвалі кнігі і іх аўтараў. Развесяліла прысутных "несур'ёзная латарэя". Падарункі з жартаўлівымі вершаванымі радкамі атрымалі ўсе ўладальнікі білетаў бяспройгрышнай латарэі. Прыемнымі сюрпрызамі сталі і музычныя віншаванні, якія падрыхтавалі таленавітыя вучні Новазасімавіцкай дзіцячай школы мастацтваў ды ўдзельнікі эстраднай студыі Сонечнага Дома культуры.

Прагучалі віншаванні з юбілеем і словы падзякі бібліятэкарам Антаніне Фасевіч і Тацяне Гуторкінай ад старшыні сельсавета Ірыны Казакевіч. Па выніках мінулага года тут налічваецца больш як 750 чытачоў, кнігавыдача дасягнула больш як 13 тысяч экзэмпляраў. Фонд бібліятэкі з пачатку адкрыцця вырас амаль у тры разы і складае сёння прыкладна 10,5 тысячы экзэмпляраў. Да паслуг наведвальнікаў — 33 назвы газет і часопісаў. Бібліятэкары шчыра ўдзячны чытачам, якія прыносяць кнігі ў дар. Ужо ў гэтым годзе 28 кніг папулярных сучасных аўтараў ахвяравала кніжніца Ірына Жалткевіч.

**Ніна ШАБУНЯ**

## Незвычайны дыктант

**Для навучэнцаў сярэдняй школы № 15 у бібліятэцы № 12 г. Гомеля адбылася сустрэча з беларускім пісьменнікам, ураджэнцам гомельскага краю — "Незвычайны дыктант з Васілём Ткачовым".**

Імя Васіля Ткачова, празаіка, драматурга і гумарыста, добра вядома ў Беларусі. Асобныя яго апавяданні ўключаны ў чытанкі для вучняў малодшых класаў. У Быхаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі створана экспазіцыя, дзе шырока прадстаўлены жыццё і творчасць пісьменніка-земляка. Прэзідыумам Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі яму прысуджана прэмія 2011 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці.

Творы Васіля Ткачова напісаны жывой і вобразнай мовай. Васіль Юр'евіч застаецца верны сваім галоўным прынцыпам — любові да малой радзімы і землякоў.

На памяць пра сустрэчу пісьменнік падпісаў кнігі бібліятэцы і чытачам.

**Тацяна ЛАЗІНА**

# Жыццё ў танцы

Марына ЛІС,
Таццяна ЖУК,
супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі разам з вялікім кніжным багаццем зберагаюцца і асабістыя архівы вядомых дзеячаў навукі і культуры. Сярод іх знаходзіцца і архіў руплівага збіральніка беларускага харэаграфічнага фальклору, вядомага ў свой час танцоўшчыка, балетмайстра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Янкі (Івана Маркавіча) Хвораста (1902 — 1983).**

Частка ўнікальных матэрыялаў з асабістага архіва Янкі Хвораста ўпершыню прадстаўлена ў юбілейнай экспазіцыі пад назваю "Жыццё ў танцы". Выстаўка працуе ў бібліятэцы да 20 сакавіка.

Янка Хвораст амаль усё жыццё прысвяціў танцу. Яшчэ маленькім хлопчыкам цікавіўся, як танцуюць дарослыя, запамінаў асноўныя рухі, а потым, дзе-небудзь схаваўшыся, спрабаваў іх паўтарыць. З цягам часу гэтая цікавасць не знікла, а наадварот — пашыралася і патрабавала ўжо больш грунтоўных танцавальных ведаў. Таму невыпадкова падчас вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі і Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя, дзе Я. Хвораст актыўна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці і нават сам арганізаваў танцавальныя гурткі, апантаны харэаграфіяй юнак паралельна з вучэбнымі заняткамі наведваў па вечарах прыватныя ўрокі ў адной з віленскіх балетных школ.

Веды, закладзеныя харэографам Лідзіяй Мерашовай, пра якую Я. Хвораст успамінаў з удзячнасцю і цеплынёй, у хуткім часе вельмі спатрэбіліся маладому танцоўшчыку.

Пасля ўз'яднання Усходняй і Заходняй частак Беларусі па даручэнні беларускага ўрада на працягу 1939 — 1940 гадоў у Беластоку Р. Р. Шырмам быў створаны на дзяржаўным узроўні першы Беларускі ансамбль песні і танца. Янку Хвораста запрасілі на пасаду саліста і балетмайстра гэтага калектыву.

Мары пачалі здзяйсняцца. Праца ў ансамблі прыносіла вялікае задавальненне, і за надзвычай кароткі тэрмін Я. Хворастам было падрыхтавана і пастаўлена пяць беларускіх народных танцаў, у тым ліку і дуэт "Бульба". Дзейсную дапамогу пачынаючаму балетмайстру аказвала яго першая партнёрша Анета Рэйзер, якая атрымала харэаграфічную адукацыю ў Вене.

У хуткім часе пачаліся гастрольныя паездкі па Беласточчыне, якія прынеслі і першыя поспехі. Наогул творчае майстэрства ансамбля, а разам з ім Я. Хвораста, імкліва развівалася. Балетмайстар пашыраў рэпертуар, ствараючы новыя цікавыя кампазіцыі.

У маі 1941 года ансамбль выехаў з канцэртнай праграмай у Маскву. Там калектыў атрымаў сімпатыі гледачоў, прыхільныя водгукі спецыялістаў, у тым ліку ў прэсе. Была адзначана самабытнасць, высокі прафесіяналізм выканаўцаў.

Далейшы маршрут гастроляў павінен быў пралягаць праз Крым, Каўказ, Урал, Ленінград, але Вялікая Айчынная вайна перакрэсліла ўсе планы. Ансамбль разам з іншымі творчымі арганізацыямі быў вымушаны эвакуіравацца з Масквы. Так апынуліся ў Краснаярску. Артысты шмат выязджалі з канцэртамі па гарадах Сібіры. Нават у такі неспрыяльны, трывожны час людзям патрэбна было мастацтва з яго вялікай ачышчальнай і жыццесцвярджальнай сілай.

За гады эвакуацыі Янка Хвораст аб'ездзіў са сваім ансамблем дзясяткі гарадоў і населеных пунктаў не толькі Сібіры, але і Урала, і Сярэдняй Азіі, ставіў новыя танцы і харэаграфічныя кампазіцыі. Разам з вядомым харэографам Н. Надзеждзінай, якая працавала ў час вайны ў ансамблях Сібірскай ваеннай акругі, а пасля вайны стварыла вядомы на ўвесь свет харэаграфічны ансамбль "Бярозка", была падрыхтавана кампазіцыя "Партызанскі пляс", а па просьбе Надзеждзінай Я. Хвораст у адным з яе калектываў паставіў беларускі танец "Крыжачок". Цёплыя прафесійныя адносіны паміж двума балетмайстрамі захоўваліся на працягу многіх гадоў.

Вярнуўшыся ў снежні 1943 года ў вызваленую частку Беларусі, Я. Хвораст у складзе ансамбля і як саліст выступаў на заводах і фабрыках, у ваенных шпіталях, на перадавой і ў партызанскіх атрадах.

У пасляваенныя гады ансамбль на некаторы час застаўся ў Гродне. Акрамя сольных выступленняў і пастановак новых танцавальных нумароў Янка Хвораст працягваў актыўную збіральніцкую працу. Яшчэ раней, знаходзячыся ў Беластоку, а потым і на Гродзеншчыне, ён, вандруючы па навакольных вёсках, з нязменнай упартасцю адшукваў цікавыя танцы, занатоўваў іх.



Дзейнасць Янкі Хвораста ў Беларускім дзяржаўным ансамблі песні і танца працягвалася больш як 10 гадоў, але ў 1951 годзе ў сувязі з рэарганізацыяй танцавальная група спыніла сваё існаванне. За перыяд плённай працы ў гэтым калектыве на пасадзе балетмайстра Янкам Хворастам было распрацавана і пастаўлена звыш 60 разнапланавых танцаў, дуэтаў, харэаграфічных кампазіцый, а ўсяго за час сваёй творчай дзейнасці ён стварыў больш як 120 выдатных танцавальных пастановак.

Нягледзячы на спыненне дзейнасці танцавальнай групы ансамбля, артыстычная праца Я. Хвораста працягвалася. З 1953 па 1960 гады ён саліст балета Беларускай дзяржаўнай філармоніі, шмат гастраляваў разам з эстрадным ансамблем па гарадах былога СССР. Талент і майстэрства танцоўшчыка знаходзілі водгукі ў сэрцах гледачоў, а ад кіраўнікоў Кіеўскай і Сталінградскай філармоній нават паступалі прапановы выступаць у складзе іх ансамбляў.

Па заканчэнні сцэнічнай кар'еры Я. Хвораст сканцэнтраваўся на педагагічнай і шэфскай дзейнасці. Працуючы выкладчыкам у Мінскім харэаграфічным вучылішчы, маючы вялікі педагагічны вопыт і валодаючы высокім майстэрствам выканаўцы, Я. Хвораст з радасцю дзяліўся сваімі набыткамі з маладымі талентамі.

Як кансультант Рэспубліканскага дома народнай творчасці даваў слушныя парады, аказваў дзейсную дапамогу шматлікім самадзейным танцавальным калектывам, асабліва на Гродзеншчыне. Дзякуючы Я. Хворасту набылі папулярнасць такія танцавальныя калектывы, як Смаргонскі ансамбль песні і танца імя М. Агінскага, "Свіцязь" з Навагрудка, ваўкавыскае "Маладосць", дзятлаўскі "Лянок" і іншыя.

Арыентуючыся на слаўныя традыцыі, закладзеныя Ігнатам Буйніцкім, абапіраючыся на народную танцавальную стыхію, Янка Хвораст здолеў падняць беларускую харэаграфію на ўзровень сучаснай прафесійнай балетнай культуры.

Янку Хвораста як прызнанага майстра танцавальнага жанру часта запрашалі ў журы розных танцавальных аглядаў, конкурсаў, на абмеркаванне канцэртных праграм, да ўдзелу ў канферэнцыях, прысвечаных пытанням харэаграфіі, ён быў членам мастацкага савета па музычным мастацтве і харэаграфіі пры Міністэрстве культуры БССР.

Заслугі Я. Хвораста ў развіцці беларускага танцавальнага мастацтва, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці былі адзначаны медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР і іншымі граматамі, а ў 1977 годзе яму было нададзена высокае званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

Янка Хвораст пакінуў пасля сябе вельмі цікавую танцавальную спадчыну, якая складаецца з запісаў беларускіх народных танцаў, танцавальных мініяцюр, сцэнарыяў харэаграфічных кампазіцый і іншых цікавых дакументаў. Часам дзіву даешся, наколькі гэты таленавіты чалавек быў адданы танцу, яго эстэтычнаму хараству. З дапамогаю ўмоўных абазначэнняў, малюнкаў схем, а таксама дзякуючы скрупулёзнаму ўзнаўленню на паперы кожнай пазіцыі, кожнага руху выканаўцы, Я. Хвораст занатоўваў і тым самым захоўваў для наступных пакаленняў вялізнае нацыянальнае танцавальнае багацце, а таксама іншых народаў, якія разам складаюць сусветную скарбніцу танцавальнага мастацтва.

Яшчэ пры жыцці артыста ў 1974 і 1977 гадах выйшлі з друку два выданні яго кнігі "Беларускія танцы", а ў 1991 годзе – зборнік "Танцы Янкі Хвораста", якія рэпрэзэнтавалі шырокай грамадскасці толькі невялікую частку са шматлікіх запісаў. Каштоўная танцавальная спадчына Я. Хвораста, што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі, яшчэ чакае свайго часу.

У архіве Я. Хвораста захоўваюцца і іншыя дакументы, сярод якіх напрацоўкі ў галіне харэаграфіі, а таксама цікавыя ўспаміны, якія, на жаль, засталіся незавершанымі з прычыны хваробы і смерці аўтара.

Разам з творчымі матэрыяламі ў фондзе Я. Хвораста зберагаюцца цікавыя, хаця і нешматлікія, біяграфічныя дакументы, якія адпавядаюць тым ці іншым старонкам жыцця і дзейнасці артыста.

Эпісталярный Я. Хвораста захоўвае чарнавікі і арыгіналы лістоў самога фондаўтваральніка і розных асоб да яго. Так, напрыклад, захаваўся чарнавік ліста, датаваны 1942 годам, да тагачаснага кіраўніка Беларусі Т. Гарбунова. Ён быў напісаны Я. Хворастам ад імя калектыву ансамбля з адваротнага боку гастрольнай афішы. Адрасатамі Я. Хвораста былі такія вядомыя асобы, як Р. Шырма, Зоська Верас (Людвіка Антонаўна Войцік), М. Забэйда-Суміцкі і іншыя дзеячы беларускай культуры.

Вялікую цікавасць выклікаюць шматлікія афішы, якія ўносяць дадатковыя звесткі ў творчую біяграфію артыста, а таксама асабістыя і групавыя фатаграфіі Янкі Хвораста, фотаздымкі, што адлюстроўваюць фрагменты асобных танцаў у яго выкананні, узнаўляюць лепшыя моманты жыцця гэтага неардынарнага, таленавітага чалавека, які ўсёй сваёй творчасцю імкнуўся данесці да гледачоў чароўны і дзіўны свет мастацтва, яркія запамінальныя сцэнічныя вобразы, падарыць радасць, а часам і выклікаць усмешку.

***На здымку: Т. Гіжэўская і Я. Хвораст у танцы "Чардаш", 1954 г.***

# На вячоркі да бярэзінцаў

Тамара КРУТАЛЕВІЧ,
загадчык аддзела
Бярэзінскай ЦБС

**У Цэнтральнай Бярэзінскай гарадской бібліятэцы спецыяльна для старшакласнікаў распрацаваны праекты "Мастацкая літаратура — акно ў свет"; "Жывая кніга".**

Не сакрэт, што для большасці сучаснікаў традыцыйныя формы прапаганды кнігі страцілі цікавасць. Супрацоўнікі Бярэзінскай бібліятэкі прапануюць вучням старэйшых класаў школ горада і раёна новыя творчыя формы масавай прапаганды кнігі і літаратуры, якія прайшлі выпрабаванне на практыцы ў папярэднія гады. Старшакласнікам адрасаваны літаратурна-сацыяльная рулетка "Маладзёжны вектар"; літаратурныя сімфаньеты "Апавяданне — літаратурны шэдэўр"; выбары пісьменніцкага парламента; сацыяльна-педагагічная экспрэс-школа "Звяраем жыццё па кнізе" (вытокі падлеткавай злачыннасці); партрэтная галерэя "Партрэты загаварылі", дапоўненая рэчамі-сімваламі, ксеракопіямі лістоў, дзённікаў пісьменнікаў, сяброўскімі шаржамі і эпіграмамі з архіваў газеты "Літаратура і мастацтва" і раённай бібліятэкі; цыкл літаратурных гульняў "Герой не майго рамана". Актыўныя ўдзельнікі аўкцыёна літаратурных шэдэўраў "Выкупі кнігу рэкламай" атрымаюць спецыяльныя жэтоны на права бясплатнага карыстання камерцыйным фондам бібліятэкі на паўгода. Тэатр маналога прадставіць споведзі каханай жанчыны Янкі Купалы Паўліны Мядзёлкі "Сцяжыны кахання зводзілі нас з табой" (паводле А. Дзялендзіка "Карона з кахання" і П. Мядзёлкі "Сцежкамі жыцця").

Дашкольнікам і малодшым школьнікам адрасаваны праект года "Расцём з кнігай". Пройдзе таксама цыкл экскурсій у Бярэзінскую дзіцячую, сельскія бібліятэкі і ў пакоі казак, будуць прэзэнтаваны дзіцячыя куточкі беларускай кнігі, кніжныя старонкі "Я — кніжка цікавая", адбудуцца святы кніг-імяніннікаў, пасвячэнні ў чытачы. А ў дзіцячых садках пройдуць міні-заняткі "Твая першая кніжка", святы дзіцячых часопісаў "Вясёлкавая раніца". Павышэнню іміджу чалавека, які чытае, паспрыяюць злёты лепшых чытачоў.

# Ад садочка да «падоўжанкі»

**“Нарадзіўшыся ў вёсцы і скончыўшы беларускамоўную школу, цяпер не разумею, чаму мы, беларусы, амаль не карыстаемся роднаю моваю, — зазначыла на пачатку размовы загадчыца дзіцячай бібліятэкі № 4 г. Мінска Людміла Бусел. Да размовы пра недзіцячыя клопаты пра мову ды літаратуру далучылася і загадчыца дзіцячай бібліятэкі № 6 імя Васіля Віткі Тамара Патук. Прыярытэтнымі кірункамі гэтыя кніжніцы лічаць праграмы па адраджэнні нацыянальнай культуры. І — гасцінна расчыняюць дзверы для наведвальнікаў.**

Ірына ТУЛУПАВА



### «Кніганошы» на раздарожжы

“На сёння дзіцячыя бібліятэкі шмат робяць для папулярызацыі беларускай мовы. У нас фонды шыкоўныя. Кадры таксама высокакваліфікаваныя. І кожная бібліятэка працуе па праграмах і праектах, складзеных ёю, для прапаганды культуры і гісторыі Беларусі, — пачала расповед Людміла Станіславаўна. — У нас, у прыватнасці, у прыярытэтных напрамках — гісторыя, экалогія, народная творчасць. У іх развіцці добра адчуваем дапамогу Саюза пісьменнікаў Беларусі, шмат гадоў шчыльна працуем са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазнякоўым. Пры яго дапамозе арганізуем сустрэчы з сучаснымі творцамі”.

Чытачы дзіцячых бібліятэк падзяляюцца на дзве вялікія катэгорыі: малодшыя школьнікі і школьнікі старэйшых, уключаючы і выпускныя, класаў. Калі гаварыць пра беларускую мову і карыстанне ёю, то даводзіцца знаходзіць словы для розных узроставых груп. Тамара Патук дадае: “Беларускай літаратуры для дзяцей цяпер дастаткова, але вельмі мала — для падлеткаў. Прапануем Янку Маўра, якога чыталі і мы, з сучаснікаў — Алену Масла, Алеся Якімовіча. Але сустракацца даводзіцца, каб беларускія словы адкладаліся ў памяці, ці не штодня”.

Кропкай адліку ў папулярызацыі літаратуры можа быць як адна яскравая сустрэча з пісьменнікам, так і аб’ёмны творчы праект, разлічаны на некалькі гадоў.

### Быць лепшымі

У дзіцячай бібліятэцы № 4 у 2010 годзе распрацавалі праект “Зямля бацькоў — зямля святая”. І ўвесь год працавалі менавіта па гэтым кірунку. Але сутыкнуліся з тым, што гарадскія дзеці ўвогуле не гавораць на беларускай мове. І не ведаюць яе! “Той адзін-два ўрокі на тыдні, калі вучні “праходзяць” беларускую мову, амаль нічога не даюць. Добра, калі беларуская мова гучыць у сям’і. У рускамоўным жа асяроддзі маўленне засвойваецца марудней. Таму ў бібліятэцы працуе клуб “Рамонак”.

Людміла Станіславаўна ўспамінае: калі вырашылі наблізіць кнігу да дзетак, сталі насіць выданні нават у садкі. Спачатку ніякай упэўненасці ў поспеху не было. Але хутка пераканаліся: пачынаць з чагосьці трэба! І наведванне садкоў — добрая дапамога ў працы з дзецьмі. “А ў садку знайшлі адзінадумцаў і ўжо два гады як супрацоўнічаем. Нават адзін выпуск адбыўся: дзеткі пайшлі ў школу, яны цяпер займаюцца ў 74-й гімназіі”.

Са школай бібліятэкары таксама вельмі плённа супрацоўнічаюць. Вучням першых класаў носяць кнігі самі: “кніганошы” працуюць штодня. Бывае, у дзень нават тры класы наведваюць.

А ў бібліятэцы прымаюць школьныя групы падоўжанага дня кожны дзень, акрамя аўторка. “Дзеткі любяць да нас хадзіць. Таму што акрамя таго, што прапануем кнігі, мы ім і мульцікі ўключаем, і што-небудзь расказваем. Альбо праводзім тэматычную электронную прэзентацыю”, — тлумачаць бібліятэкары. На сённяшні дзень толькі для малодшага ўзросту падрыхтавана каля 70 такіх прэзентацый. Супрацоўнікі кніжніц ствараюць іх самі. Пасля вызначаюць ды размяркоўваюць: што будзе карысна для малодшых школьнікаў, што — для сярэдняга ўзросту, а што — для старэйшага. Летась на рэспубліканскім конкурсе “Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры” бібліятэка № 4 заняла першае месца. Разам з “Рамонкам”, які створаны для маленькіх дзетак, распрацавалі для сярэдняга і старэйшага ўзростаў шэраг найцікавейшых праектаў. Гэта аповеды пра экалогію Беларусі, прыроду краю, сустрэчы з цікавымі людзьмі, расповеды пра знакамітых асоб Беларусі. І пра пісьменнікаў — абавязкова. Творцаў запрашаюць на сустрэчы кожны месяц: шчырае слова прыемна пачуць і падлеткам, і маленькім дзеткам.

### Запатрабаваныя серыі

На што найчасцей адгукаюцца хлопчыкі ці дзяўчынкі? Бясспрэчна, на тое, што можна пагладзець. Цяпер у кніжніцы распрацавалі адмысловы план у дапамогу школьнаму прадмету “Гісторыя Беларусі”. І першая тэма — адкуль пайшлі беларусы. Пачыналі відэапрэзентацыю з легендаў ды паданняў. Другая тэма — дахрысціянскія багі. Трэцяя — “Полацкі край дарагі”. Далей ідзе размова пра Вялікае Княства Літоўскае. Матэрыялы бяруцца з кніг, сёе-тое — з баз дадзеных, на якія ёсць магчымасць выхаду праз інтэрнэт.

“Пісьменнікі, з якімі мы размаўляем, на нашы просьбы адгукаюцца. Неяк падчас мінулых сустрэч мы прасілі: вельмі неабходна літаратура, творы пра прыроду! Не мастацкая — пазнавальная! Цяпер з’явіліся кнігі Алеся Бадака. Выдатная серыя, заснаваная ў 2008 годзе, “Усім пра ўсё”: выйшлі чатыры кнігі (“Расліны”, “Жывёлы”, “Птушкі”, “Насякомыя”). Чакаецца — “Рыбы”. А яшчэ ёсць цікавая і вельмі папулярная серыя “Скарбы Радзімы”. Цяпер хочацца, каб з’явілася штосьці на беларускай мове пра спорт, абавязкова — з ілюстрацыямі. І па мастацтве Беларусі: пра яго калі і пісалі, то ў мінулыя гады, кнігі ўжо састарэлыя. Вось, мы атрымоўваем «Рассказы Деда Природоведа». Але ж яны на рускай мове!”

Чытаецца вельмі добра серыя “Казкі ХХІ стагоддзя”. Па ёй робіцца шмат прэзентацый. І калі дзяцей малодшага ўзросту ў бібліятэкі прыводзяць настаўнікі, то ад такой формы працы са старшакласнікамі адмовіліся даўно. “Запрашаем на сустрэчы тых падлеткаў, хто жадае прыйсці, — запэўніваюць загадчыцы бібліятэк. — Пяць-сем чалавек — не важна! Галоўнае, што сустрэчы праходзяць цудоўна!” Адзін з прыкладаў: калі запрашалі ў чытальную залу пісьменніцу Алену Масла, дзеці самі гучна чыталі яе казкі. І пасля з аўтарам на сустрэчы было пра што гаварыць. Таму што — ведалі творы. Увогуле ж сярэдні школьны ўзрост вельмі цяжка акцэнтаваць на якую-небудзь тэму ці нават мерапрыемствы: ім як быццам нічога не цікава, яны нічога не хочуць ведаць. А калі самі пачытаюць, пісьменнік становіцца ім больш блізкім. “Пасля сустрэчы з Раісай Баравіковай, прыкладам, я пачула: “Мы ж думалі, тут лекцыя будзе, а ў нас пыталіся, ці верым мы ў іншапланецян!..” Так што вынікі супольнай працы бібліятэкараў і творцаў ужо ёсць!

***На здымку: палічкі з кнігамі ў дзіцячай бібліятэцы №4 г. Мінска.***

## Штрых-код

### Што будзе

**Гродзеншчына**

**17 сакавіка** Морынская сельская бібліятэка Іўеўскай ЦБС арганізуе літаратурны ранішнік “Падарожжа ў Чукоккалу” (да 130-годдзя з дня нараджэння К. Чукоўскага).

**19 сакавіка** бібліятэка-філіял № 6 г. Гродна сумесна з кінатэатрам “Усход” арганізуюць літаратурную віктарыну і прагляд мультфільмаў да 75-годдзя з дня нараджэння Э. Успенскага “Запрашаем у Прастаквашына”.

**20 сакавіка** адкрыецца Тыдзень дзіцячай кнігі ў Верцялішкаўскай сельскай бібліятэцы — інфармацыйна-краязнаўчым цэнтры (Гродзенскі раён). На свята запрашаны гродзенскі дзіцячы паэт Віктар Кудлачоў. Для наведвальнікаў падрыхтавана выстаўка-агляд да юбілеяў Якуба Коласа і Янкі Купалы “З Сымонам-музыкам да новай зямлі”.

**21 сакавіка** да Сусветнага дня паэзіі ў Рымдзюнскай сельскай бібліятэцы Астравецкай ЦБС пройдзе паэтычная вечарына “Чароўная краіна паэзіі”. Яна рыхтуецца сумесна з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры Рымдзюнскай сярэдняй школы з беларускай мовай навучання.

**22 сакавіка** ў дзіцячым філіяле Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага пройдзе ўрачыстае адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі “Нам кніга свята падарыла”. Праграма ўключае выступленні беларускіх пісьменнікаў У. Мазго, А. Кавалеўскага, Л. Кебіч, узнагароджанне пераможцаў літаратурна-творчага конкурсу “Мы з кнігаю сябруем”.

**22 сакавіка** на сцэне Гродзенскага гарадскога Дома культуры адбудзецца свята, прымеркаванае да Тыдня дзіцячай кнігі, — “Кожны дзень у гасцях у кніжкі”.

**23 сакавіка** Смаргонская гарадская бібліятэка № 2 плануе правесці вечар паэзіі да 75-годдзя з дня нараджэння рускай паэтэсы Бэлы Ахмадулінай.

**28 сакавіка** ў Трабскай сельскай бібліятэцы Іўеўскай ЦБС адбудзецца свята часопіса “Вясёлка”, прысвечанае 55-годдзю з дня выхаду яго першага нумара.

**Віцебшчына**

**З 12 па 18 сакавіка** Навагаранская сельская бібліятэка Полацкай ЦБС праводзіць тыдзень прафарыентацыі “Праз бібліятэку — да прафесіі”.

**14 сакавіка** Полацкая гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы праводзіць гадзіну гістарычнай адукацыі “Полацкая епархія: ад старажытнасці да нашых дзён”.

**22 сакавіка** ў Віцебскай гарадской бібліятэцы імя Максіма Багдановіча пройдзе аўтарская вечарына В. Русілкі “Паэзія колераў і пачуццяў”.

**22 сакавіка** Віцебская гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы арганізуе паэтычную гадзіну “І ажываюць спадчыны старонкі” (да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы).

**25 сакавіка** Перабродская сельская бібліятэка Мёрскай ЦБС запрашае на пазнавальную гульню “Дрэвы — упрыгажэнне зямлі”.

**З 23 па 30 сакавіка** Лепельская раённая дзіцячая бібліятэка арганізуе цыкл мерапрыемстваў да Дня дзіцячай і юнацкай кнігі.

**Брэстчына**

**20 сакавіка** Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага праводзіць творчую вечарыну “І свет адкрываўся мне існай простай” з нагоды юбілею паэта Алеся Каско і выхаду яго новых кніг.

**27 сакавіка** ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага распачынаюцца Горкаўскія чытанні, якія праводзяць сумесна з Брэсцкім дзяржаўным універсітэтам.

***Пінскі раён***

**З 26 па 31 сакавіка** ў бібліятэках Пінскай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы будзе праходзіць Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі “Кніга — мой спадарожнік, мой сябар”.

**26 сакавіка** бібліятэкары Пінкавіцкай дзіцячай сельскай бібліятэкі правядуць гульню-падарожжа “Азбука бібліятэкі”.

**26 сакавіка** ў Жыдчанскай сельскай бібліятэцы будзе праходзіць тэатралізаванае прадстаўленне “Усе казкі ў госці да нас”.

**28 сакавіка** Гарадзішчанская сельская бібліятэка будзе праводзіць гульню-віктарыну “Падарожжа па кніжным Сусвеце”.

## Першы крок

# Наталіцца кропляю жывою

**Сваю першую бібліятэку згадвае народная артыстка СССР Людміла Чурсіна.**

— Гэта было ў маленькім гарадку на Камчатцы. Бацьку накіравалі туды служыць, а я якраз перайшла ў сёмы клас. І за 6 кіламетраў ад нашага пасёлка мы хадзілі ў Елізава, каб узяць чарговую кнігу. Хадзілі менавіта ў бібліятэку. Таму што ў ваенным гарадку ў Доме афіцэраў літаратура была ў асноўным для вайскоўцаў. А нам хацелася нечага іншага.

Пасля было шмат бібліятэк. Вось зусім нядаўна наведала нашу тэатральную бібліятэку: шукала сучасную французскую камедыю. Апошнім часам шмат выданняў чытаю па драматургіі. Таму што калі спектакль здалі, трэба думаць пра наступны, шукаць новыя сцэнарыі і ролі. Прыкладам, калі мне трэба было высветліць гісторыю адной з гераінь (ставілі сучасную п’есу), я паехала ў нашу знакамітую Ленінскую бібліятэку і правяла ў ёй больш як паўдня ды парадавалася, што там шмат моладзі. Значыць, для іх патрэбна нейкая асобная літаратура. І калі выходзіла з бібліятэкі, са здзіўленнем убачыла, што, як цяпер гавораць, утварыліся пробкі каля ўвахода! Таму што шмат наведвальнікаў. І гэта ў наш час!

Кніг цяпер поўна — ў Маскве, Санкт-Пецярбургу. А калі ад’едзеш ад мегаполіса ў гарады ды пасёлачкі, падаецца, бібліятэкі не аднаўляліся гадоў 40. Іх трэба падтрымліваць. Асабліва ў аддаленых рэгіёнах, дзе няма інтэрнэту. Хаця я сама з інтэрнэтам не асабліва сябрую. Мне здаецца, калі чытаеш кнігу — яна мае біяграфію, пах, аблічча — гэта зусім іншае адчуванне. Ты можаш “закінуць вочы ў космас”, вярнуцца, паразважаць. І гэта трэба падтрымліваць, да чытання далучаць трэба!

Цяпер я чытаю кнігу настаяцеля Срэценскага манастыра архімандрыта Ціхана “Несвятыя святыя”. Там шмат аповедаў пра старцаў. Па-першае, гэта вельмі ўмацоўвае ў веры, а падругое — адкрывае цэлы пласт нашага жыцця мінулых гадоў. Не чытаю ніякіх дэтэктываў, бестселераў. А стомлены, вяртаешся да Чэхава, Паустоўскага. Чытаеш, як пісаў класік, калі “духовной жаждою томим”… І хочацца наталяць гэтую прагу сапраўднай літаратурай.



*Фота Кастуся Дробава*

# Чуць пах духмяных кветак

**У Доме-музеі І з'езда РСДРП адбылася выстаўка-прэзентацыя работ Кацярыны Новікавай "У суаўтарстве з прыродай".**

**Кацярына БЯДУЛІНА, фота Кастуся Дробава**

Кацярына Фёдараўна — народны майстар, фітадызайнер і проста цудоўная жанчына, якая змагла "ператварыць сваё хобі ў працу, а працу — у хобі". У ёй адразу заўважаеш тую шчырасць і пяшчоту, што адчуваецца ў карцінах, паштоўках і аранжыроўках з прыроднага матэрыялу. У іх жа можна знайсці адлюстраванне душы аўтара і яе настрою.



Мэта выстаўкі — паказаць разнастайнасць прыроднага матэрыялу і яго выяўленчыя магчымасці. Матэрыялы для творчасці самыя розныя: косткі рыб, кара дрэў, грыбы, сушаныя палявыя кветкі, залацістая салома, восеньскае лісце і іншыя. "Яны самі падказваюць мне, як з імі працаваць, — распавяла жанчына. — Толькі возьмеш у рукі — кветкі ды лісце нібы граюць са мною".

Гледзячы на творчасць Кацярыны Новікавай, здзіўляемся, як чалавек можа настолькі адчуваць прыроду і знаходзіцца з ёй у гармоніі: чуць пах духмяных кветак, палёў, таямнічага лесу. Як тут не даць волю фантазіі? Уявіце, вось сумная галінка ніцай бярозкі. Глядзіш і думаеш: што можна з яе зрабіць? Але… Як зазначыла Кацярына Фёдараўна, прыродны матэрыял адлюстроўвае розныя пачуцці і эмоцыі чалавека: журбу, смутак альбо наадварот — радасць, надзею, пяшчоту, трапятанне. А можна выкарыстаць у сваіх аранжыроўках народныя матывы, памятаючы пра сімвалы і культурныя традыцыі беларусаў.

Разглядаючы карціны Кацярыны Фёдараўны, нібы трапляеш у цудоўны свет. Глядзіш на карціну, створаную з рыбіных костак, знаёмішся з ляснымі чалавечкамі, зробленымі з апалага лісця, маленькіх іголачак, жалудоў, каштанаў…



Часам і здагадаешся, што хацела паказаць аўтарка, аднак голас прыроды можа пачуць не кожны чалавек. Бо, на жаль, не ўсе сёння ўмеюць размаўляць з ёю.

Нягледзячы на 90-гадовы ўзрост, Кацярына Новікава знаходзіць сілы, каб тварыць. Нездарма кажуць: сэнс чалавечага жыцця — рабіць тое, што ідзе ад сэрца, каб потым пакінуць па сабе чысты і светлы след.

***На здымках: Кацярына Новікава падчас выстаўкі; кампазіцыя з прыроднага матэрыялу "Бансай".***

# Лапік за лапікам

***Лілія БЕЛАНОВІЧ,*** **навуковы супрацоўнік Крупскай мастацкай галерэі, фота аўтара**

**У Крупскай мастацкай галерэі прайшла выстаўка пад назвай "Лапікавая хатка". У экспазіцыі былі прадстаўлены работы Алены Мацяш — майстра-дызайнера з Мінска. Яе вырабы з тэкстылю здзіўляюць разнастайнасцю тэхнік. Працуе Алена толькі з натуральнымі тканінамі — льном і баваўнай. Аматары хэнд-мэйду маглі ўбачыць каля двухсот аўтарскіх твораў, выкананых у тэхніцы пэчварк — абрэзкавага шыцця.**

У экспазіцыі былі прадстаўлены пярэстыя коўдры, пледы, падушкі, пано, сувеніры, скрыначкі, мяккія цацкі, пацешныя лялькі ў розных стылях. Некаторыя з іх з'явіліся на свет цэлымі сем'ямі. Пра Новы год напамінала больш як 50 ёлачных цацак. Юным гледачам так і карцела прымерыць карнавальныя гарнітуры "Пірат", "Гусар", "Марак", "Ільвяня". Усё гэта — вынік дзесяці гадоў творчасці.

Усе работы аб'яднаны адной тэмай: дом і дзяцінства. Хаця, здаецца, майстар здольная ахапіць шмат іншых тэм. Багатая фантазія дае штуршок для стварэння вырабаў, якія хочацца доўга разглядаць, вывучаючы кожны сантыметр. Пэчварк у інтэр'еры дзіцячага пакоя — гэта ажыўшая казка, створанае рукамі чараўніцтва мілых рэчаў, сярод якіх малому вельмі ўтульна. Дзіця, засынаючы пад коўдрай, якую пашыла маці ці бабуля, будзе бачыць толькі добрыя сны.

— Дзяцінства асацыіруецца ў нас звычайна з домам, хочацца, каб гэты перыяд быў найбольш яркім успамінам і падтрымліваў яго ў далейшым



жыцці, — зазначыла Алена.

Вельмі арыгінальным атрымаўся сталовы набор "Каляды": сурвэткі і абрус у тэхніцы абрэзкавага шыцця "крэйзі", з элементамі тэкстыльнай аплікацыі. "Крэйзі" — адна з найцікавейшых знаходак у пэчварку, якая дапамагае вырашыць цяжкую задачу: стварыць з рознакаляровых лапікаў тканіны, спецыяльна нічога не выкройваючы, штосьці карыснае, арыгінальнае і прыгожае. У справу пры гэтым ідуць нават маленечкія кавалачкі, таму такія вырабы нагадваюць пярэстыя мазаічныя малюнкі, у якіх, здаецца, абрэзак з абрэзкам злучаны бязладна, у нечаканых каляровых спалучэннях з мноствам ламаных ліній. Сваю назву гэтая тэхніка шыцця атрымала ад англійскага слова "crazy" — вар'ят.

— Мне падабаецца, што для работы ў гэтым стылі не трэба рабіць чарцяжы, рыхтаваць шаблоны, акуратна і дакладна выкройваць па іх дэталі, як у іншых абрэзкавых тэхніках, — распавяла майстар. — Тыя, хто бярэцца працаваць у тэхніцы "крэйзі", не баяцца эксперыментаваць, таму што пакуль не прышыты апошні кавалачак, невядома, які будзе вынік.

Буйная стракатасць фарбаў стварае ўражанне блытаніны і хаатычнасці, аднак існуюць акрэсленыя правілы творчасці, якія ведае толькі майстар. Колькі выразных сродкаў выкарыстоўвае аўтар, каб данесці да людзей ідэю свайго твора! Колькі выдумкі, фантазіі і майстэрства праяўляе Алена ў сваіх работах!

***На здымку: работа Алены Мацяш "Лапікавая хатка".***

## Афарызм

*А сонца зззяе, каб*
*Зямля рунела ўся*
*І мы ў жыцці з табой*
*Не размінуліся.*

**Максім ТАНК**

## З глыбінкі

### Паўсотні кніг — у падарунак

200 гадоў таму нарадзіўся пісьменнік, навуковец, мастак, музыкант Юзаф Крашэўскі, лёс якога звязаны з Пружаншчынай. З нагоды юбілею ў музеі-сядзібе "Пружанскі палацык" адбылася канферэнцыя пад назвай "Крашэўскі знакаміты і невядомы".

Сярод удзельнікаў мерапрыемства былі госці з Польшчы і аўтар кніг пра Крашэўскага Руслана Гусева.

Яшчэ ў 1998 годзе цяперашні дырэктар музея-сядзібы Юрый Зялевіч пачаў збіраць інфармацыю пра славутага земляка. Новы штуршок для пошукаў даў інтэрнэт. Дзякуючы сетцы на пружанцаў выйшла дырэктар мемарыяльнага музея Юзафа Крашэўскага ў Раманове (Польшча) Ганна Чабадзінска-Пшыбыслаўска. Яна падрыхтавала выстаўку і передала экспанаты спецыяльна для Пружанскага палацыка. Сёння польскія госці былі прыемна здзіўлены значным папаўненнем экспазіцыі. У мінулым годзе жыхарка Пружан Іна Урублеўская перадала музею 52 кнігі Крашэўскага, некаторыя з іх з'яўляюцца прыжыццёвымі выданнямі.

Пані Ганна Чабадзінска-Пшыбыслаўска запрасіла ў Польшчу на святкаванне юбілею пісьменніка вучняў Загор'еўскай школы — яны на чале з настаўнікам Мікалаем Сахаруком стварылі куток Крашэўскага. Польскія госці выказалі сваё здзіўленне і захапленне студэнткай Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Ірынай Філімовіч, якая напісала цікавую курсавую работу пра Юзафа Крашэўскага і прыгожа прэзентавала яе.

Але галоўнай гераіняй канферэнцыі была, безумоўна, Руслана Гусева. Ужо выйшлі чатыры яе кнігі, а хутка будзе і пятая, у якіх Руслана Мікалаеўна распавядае пра жыццё і творчасць Юзафа Крашэўскага. Рэдактарам кніг, а таксама аўтарам вершаваных перакладаў з'яўляецца намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Любоў Красеўская. Нямала твораў пераклала і сястра Русланы Гусевай Ірына. Значную дапамогу ў рабоце над кнігамі аказалі бацька і сын Расціслаў і Анатоль Бензерукі, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ, пісьменнік Анатоль Крэйдзіч.

**Кацярына ПАШКЕВІЧ, г. Пружаны**

### Шукаем музыкантаў!

Здольных творчых людзей у калектыве Бабруйскага завода тармазной апаратуры і механізмаў нямала. У тым ліку і надзеленых артыстычным талентам.

Завадскія артысты рыхтуюць канцэрты да ўсіх свят. Прычым цалкам на грамадскіх пачатках. Яны спяваюць, ставяць музычныя нумары, танчаць, іграюць на баяне. Самыя актыўныя, на якіх заўжды можна разлічваць, — гэта Андрэй Скарабуд з інструментальнага цэха, Ганна Шміт — кранаўшчыца загатоўляльна-прэсавай вытворчасці, тэхнолаг Раман Шукалін. Самадзейныя артысты неадназова бралі ўдзел у гарадскіх аглядах-конкурсах і адзначаліся ў ліку лепшых. Прыгожы святочны канцэрт падрыхтавалі яны сёлета да Дня жанчын.

Але самі артысты лічаць, што гэтага мала, і марац арганізаваць завадскі духавы аркестр. Інструменты на прадпрыемстве ёсць. Застаецца толькі знайсці музыкантаў.

**Валерый ЗІНОЎСКІ, г. Бабруйск**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2835
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 07.03.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1065
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686